КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 32 (304) ◂ 24 жніўня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**МАРЫНА АДАМОВІЧ**

Стар. 6

**ПРЫГАДЗІЎСЯ ДЗЕ НЕ НАРАДЗІЎСЯ**

За 11 гадоў з вёскі ў горад з'ехала паўмільёна маладых беларусаў

Стар. 5

**МАРЫ «ГРУЗІНСКАЙ МАРЫ»**

Пра магчымыя сцэнары падзей у Грузіі журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае Георгій Парэсішвілі, адзін з моладзевых лідараў кааліцыі «Грузінская мара» — галоўнай апазіцыйнай сілы рэжыму Міхаіла Саакашвілі

Стар. 11

**1938 ГОД. ТРАГЕДЫЯ ПАЛЯКАЎ У БССР**

Стар. 14

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ**

Нарыс Аляксандра Тамковіча з цыклу «Трэці сектар у асобах»

З НАГОДЫ

# КІРУЮЦЬ ПРАГМАТЫЧНЫЯ МАТЫВЫ

Вольга ХВОІН

**Кіраўнік дзяржавы адправіў у адстаўку кар'ернага дыпламата Сяргея Мартынава і прызначыў міністрам замежных спраў кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімера Макея. Ёсць меркаванне, што на восень запланаваныя эканамічныя перамовы з ЕС — беларускай дзяржаве патрэбныя грошы, а расійскіх не хапае.**




Палітолагі розная афарбоўкі выказваюць даволі супрацьлеглыя меркаванні. Напрыклад, палітолаг Павел Усаў піша для інтэрнэт-рэсурса The Point: «Ад таго, што Макей стаў міністрам замежных спраў, трэба хутчэй чакаць узмацнення канфрантацыі з ЕС і Захадам у цэлым. Гэтым прызначэннем Лукашэнка паказаў, што не збіраецца ісці насустрач патрабаванням Захаду шляхам палітычных і дыпламатычных саступак, і будзе і надалей праводзіць жорсткую палітыку як унутры краіны, так і ў дыпламатычных адносінах з Захадам». Нагадаем, Уладзімір Макей знаходзіцца ў спісе персон нон-грата для ЕС як адзін з бліжэйшых паплечнікаў Лукашэнкі.

Тым не менш у чыноўніка ў Еўропе імідж «перамоўшчыка», і існуе вялікая верагоднасць, што восенню яго статус будзе перагледжаны. Еўрасаюз будзе працаваць з новым кіраўніком МЗС Беларусі Уладзімірам Макеем у тым жа фармаце, што і з яго папярэднікам Сяргеем Мартынавым, — паведаміла БелаПАН прэс-сакратар кіраўніка еўрапейскай дыпламатыі Кэтрын Эштан Майя Качыянчыч.

Звальненне доўгажыхара МЗС Сяргея Мартынава некаторыя эксперты тлумачылі тым, што ён занадта дыпламатычны, а Лукашэнка надумаў ладзіць ледзьве не бліц-крыг на Захад. Сам Лукашэнка заявіў: «Прапрацаваўшы амаль дзесяць гадоў на пасадзе міністра, Сяргей Мартынаў адносна даўно выказаў пажаданне папрацаваць на іншай рабоце. Гэта была яго ініцыятыва. Прычым яна, з майго пункту гледзішча, выглядала вельмі дастойна, па-мужчынску, асабліва матывацыя». І дадаў, што прэтэнзій да кар'ернага дыпламата ў яго няма. «Гэта разумны чалавек. У мяне асабіста ён і яго дзеянні ніколі не выклікалі алергіі», — зазначыў беларускі лідар.

Далейшыя выказванні Лукашэнкі можна трактаваць хутчэй як пасыл для Захаду, чым для ўнутранага карыстання. «Не трэба баяцца гаварыць пра Беларусь ва ўвесь голас, уздзейнічаючы на мэтавыя аўдыторыі, нягледзячы на ўсю крытыку і істэрыю з боку. Бо што важна для простага еўрапейскага абывацеля? Усё проста: ступень грамадскай бяспекі, стан навакольнага асяроддзя, надзейнасць дзяржаўных межаў з пункту гледжання шчыльнай заслоны ад злачынных трансгранічных праяў, стабільнасць у суседзяў. І нам тут ёсць чым ганарыцца і пра што казаць», — адзначыў Лукашэнка.

Таксама ён згадаў дасягненні Макея ў ролі міратворцы. «Магчыма, трэба было выкарыстоўваць яго патэнцыял больш шырока ў любой якасці ў знешняй палітыцы. Для вас не сакрэт, што я прыцягваў яго да некаторых знешнепалітычных ініцыятыў. Па майму даручэнню ён сустракаўся са многімі кіраўнікамі як на Усходзе, так і Захадзе, спрабуючы нармалізаваць у асабліва вострыя перыяды нашы адносіны, асабліва на Захадзе. Гэта ў яго атрымлівалася», — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы.

Зыходзячы з публічнай рыторыкі Лукашэнкі, Беларусь чакае як мінімум перыяд пацяплення ўзаемаадносінаў з Еўропай. Праўда, пацяпленне гэта будзе ўмоўным. Бо ніхто не адмяняў дванаццаць падставовых патрабаванняў ЕС да дэмакратызацыі беларускага рэжыму, які, натуральна, на гэта проста не здольны.

Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі ў сваіх ацэнках слушна адзначае, што фігура Макея не можа паўплываць на рэальнае паляпшэнне адносінаў з Захадам (па сутнасці, праблема ж не ў тым, хто кіраўнік знешнепалітычнага ведамства).

Пад пытаннем застаецца і праграма ЕС для Беларусі «Дыялог для мадэрнізацыі». Адносіны да гэтай праграмы ва ўладаў пранейшаму негатыўныя, бо іх прамы ўдзел там не прадугледжаны. Але некаторыя яе недзяржаўныя ўдзельнікі з прызначэннем Макея зноў пачынаюць сеяць ілюзіі, што магчымая другая серыя дыялога з ЕС. У першай, як вядома, яны моцна дапамагалі Макею, роля якога сёння пазітыўна ацэнная Лукашэнкам. Аднак Лукашэнка зноў заявіў пра нязменнасць сваёй палітыкі. А гэта ставіць вялікае пытанне наконт плёну намаганняў Макея з яго недзяржаўнымі саюзнікамі з праграмы «Дыялог для мадэрнізацыі», — адзначае эксперт.

Аглядальнік Аляксандр Класкоўскі прагназуе, што пры цяперашнім раскладзе можна чакаць вызвалення хаця б некалькіх палітвязняў (нагадаем, нядаўна з СІЗА былі вызваленыя пад падпіску журналіст Сурапін і рыэлтар Башарымаў, якіх прымазалі да скандальнага плюшавага дэсанту са Швецыі) і спробы вышчаніць у фінансавых структур Еўропы крэдыцік-другі.

«Лібералізацыя — гэта не тая катэгорыя, якой мысліць беларускі рэжым. Перавыхоўвацца ён не будзе, еўрапейскія каштоўнасці для Лукашэнкі будуць заставацца чужымі. Калі будзе трэба, дык той жа Макей з імі джам перамоўшчыка будзе рабіць рэзкія заявы на адрас Еўрасаюза. Што ўжо і было раней. Я б сказаў, што дзейнічаюць прагматычныя матывы — пакрысе нарастае напружанне на ўсходнім баку, бо Расія патрабуе рэсурсы. Але галоўнае — нам патрэбныя грошы! Расійскія траншы невялікія і не вырашаюць праблемы. А калі ідзе дыпламатычная вайна, то, натуральна, буржуіны грошы даваць не разгоняцца. Таму я не сумняваюся, што гэтай восенню будуць нейкія манеўры. Адпаведна, можна чакаць, што будзе зменшаны маштаб рэпрэсій, хаця б адзін ці два палітвязні выйдуць на свабоду. Беларуская ўлада не стане расходаваць гэты тавар адным махам, але, каб залагодзіць Еўропу, будзе зроблены мінімум дзеля непашырэння санкцый. Тым больш, што і ЕС не надта зацыкленыя цяпер ваяваць на ўсходнім кірунку. Прыгадайце, як вясной была вырашаная дыпламатычная вайна», — адзначае эксперт Аляксандр Класкоўскі.

ВЫБАРЫ

# МІЛІНКЕВІЧА НЕ ЗАРЭГІСТРАВАЛІ

**22 жніўня камісія Уручскай выбарчай акругі №109 сталіцы не зарэгістравала старшыню Руху «За Свабоду» Аляксандра Мілінкевіча, які вылучаўся шляхам збору подпісаў.**

Прычына — больш за 15% правераных подпісаў, на думку акруговай выбарчай камісіі, апынуліся несапраўднымі. Экспертамі, маўляў, былі крыміналісты з МУС. Апрача таго, былі прэтэнзіі да дэкларацыі аб даходах і маёмасці: маўляў, Мілінкевіч задэклараваў як прыватную ўласнасць дом, але не задэклараваў зямлю пад ім (зямля ў пажыццёвым карыстанні, а не ў прыватнай уласнасці).

Рашэнне аб нерэгістрацыі будзе абскарджвацца.

Разам з тым, як кажа кіраўнік ініцыятыўнай групы Аляксандра Мілінкевіча Юрась Меляшкевіч, у рэгістрацыі адмовілі так, каб гэтае рашэнне было складана абскарджваць: «З моманту падачы дакументаў на рэгістрацыю подпісы правяралі некалькі групаў крыміналістаў-графолагаў. Вынікі іх працы складзеныя ў акце, на падставе якога прынята рашэнне аб нерэгістрацыі. Але копію акта нам не далі. Паабяцалі выдаць толькі рашэнне аб нерэгістрацыі. Мы ж перакананыя, што здалі «чыстыя» подпісы, якія прайшлі некалькі этапаў унутранай праверкі».

Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч зазначае, што з выбараў выкідаюць тых палітыкаў, якія «меліся правесці паўнавартасную агітацыйную кампанію — то бок, шчыльна кантактаваць з выбаршчыкамі, прадстаўляючы пазітыўную альтэрнатыву».

Рух «За Свабоду»

СПРАВАЗДАЧА

# СМІ І ВЫБАРЫ: МАНІТОРЫНГ БАЖ

Генадзь КЕСНЕР

**Маніторынгавая група ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ) 21 жніўня прэзентавала вынікі першага этапу маніторынгу «Асвятленне парламенцкіх выбараў 2012 года ў беларускіх СМІ».**

БАЖ ладзіць падобны маніторынг ужо больш за дзесяць гадоў. Ён ажыццяўляецца шляхам даследавання сямнаццаці беларускіх СМІ — дзяржаўных і недзяржаўных, электронных і друкаваных, агульнанацыянальных і рэгіянальных.

Маніторынг мае за мэту ацаніць, наколькі ўсебакова і ў адпаведнасці з прынцыпамі журналісцкай этыкі ды міжнародных стандартаў беларускія мас-медыя здольныя асвятляць выбарчы працэс. Мэтай маніторынгу таксама ёсць і аналіз уплыву мас-медыя на электаральны выбар.

Па словах кіраўніка маніторынгавай групы, Алеся Анціпенкі, за перыяд даследавання ад 31 ліпеня да 17 жніўня дзяржаўныя СМІ асвятлялі выбарчы працэс у традыцыйнай манеры, надаючы асвятленню выбараў менш увагі, чым тэме «Надвор'е».

Галоўным ньюсмейкерам выбарчай кампаніі ў даследаваных дзяржаўных СМІ, паводле Анціпенкі, быў Цэнтрвыбаркам. Што да апазіцыйных палітычных партыяў, прадстаўнікі якіх бяруць удзел у выбарах, то іхняя прысутнасць у медыяпрасторы была мінімальнай. А калі пра іх штосьці і казалася, дык дзяржаўныя СМІ падавалі іх пераважна ў негатыўным ці надзвычай негатыўным святле. Прычым ніводнага разу прадстаўнікі апазіцыі, незалежныя эксперты, палітолагі альбо прадстаўнікі НДА не мелі голасу ў тых самых СМІ.

Надзвычай адмоўнай была характарыстыка ролі і дзейнасці заходніх назіральнікаў — манера асвятлення цяперашняй парламенцкай кампаніі параўнальна з усімі папярэднімі істотна не змянілася.

Недзяржаўныя ж мас-медыя, кажа Анціпенка, падавалі тэму выбараў у відавочна больш шырокім дыяпазоне і не абмяжоўваліся толькі афіцыйнай інфармацыяй, якая зыходзіла ад Цэнтрвыбаркаму. «Разам з тым, мяркуючы па плошчы, якую недзяржаўная прэса адвяла выбарам, бачна, што гэтая тэматыка яшчэ не стала для іх выразна прыярытэтнай», — адзначыў медыяэксперт.

«Складваецца ўражанне, што парламенцкія выбары ў Беларусі — гэта не яркая медыйная падзея, а палітычна-рытуальная дзея з наступствамі, якія няцяжка прадказаць», — падсумаваў Анціпенка.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# НАЗІРАЛЬНІКІ БДІПЧ ПАКУЛЬ БЕЗ ОФІСУ

Генадзь КЕСНЕР

**Прадстаўнікі місіі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДіПЧ) АБСЕ 22 жніўня правялі першую сустрэчу з журналістамі ў адным з мінскіх гатэляў. Па словах кіраўніка назіральнай групы Антоніа Мілашоскі, місія пакуль не мае свайго офісу ў беларускай сталіцы, але гэтае пытанне ў хуткім часе паабяцалі вырашыць уладныя структуры.**

У Мінск 21 жніўня прыляцелі 8 прадстаўнікоў місіі БДіПЧ. Антоніа Мілашоскі, дэпутат парламента Македоніі і былы міністр замежных спраў гэтай краіны, падзякаваў кіраўніцтва Беларусі, у прыватнасці, МЗС за запрашэнне на парламенцкія выбары назіральнікаў ад БДіПЧ АБСЕ. Гэта ўжо шостыя выбары, за якімі назірае БДіПЧ АБСЕ, пачынаючы ад 2001 года. «Мы ўжо сустрэліся з кіраўніцтвам ЦВК, і нам хацелася б падзякаваць за прадуктыўную размову і за тое, што ўсе прадстаўнікі нашай місіі атрымалі адпаведныя сертыфікаты і пасведчанні, каб мы маглі свабодна назіраць за выбарамі», — адзначыў Антоніа Мілашоскі. Ён дадаў, што непасрэдна ў дзень выбараў місія БДіПЧ аб'яднае свае высілкі з назіральнікамі ад Парламенцкай асамблеі АБСЕ.

Некаторыя беларускія апазіцыйныя палітыкі лічаць немэтазгодным прысутнасць еўрапейскіх назіральнікаў на парламенцкіх выбарах. Яны мяркуюць, што ўлады Беларусі не выканалі рэкамендацыяў АБСЕ дзеля правядзення свабоднай і справядлівай выбарчай кампаніі, а таксама што прысутнасць назіральнікаў з Еўропы легітымізуе выбары і ўрэшце рэжым.

Адказваючы на пытанне «Новага часу», што ён думае на гэты конт, Антоніа Мілашоскі прамовіў па-беларуску: «Беларускія грамадзяне будуць галасаваць і выбіраць дэпутатаў, а мы будзем за гэтым назіраць. У Беларусі я хацеў бы пабачыць, па-першае, Мірскі замак, а па-другое, дэмакратычныя выбары». Кіраўнік місіі БДіПЧ АБСЕ падкрэсліў, што ягоная група будзе назіраць за працэдурамі, за працэсам, за кампаніяй, не ўмешваючыся ў палітыку. А напрыканцы парламенцкай кампаніі будуць зроблены адпаведныя рэкамендацыі і дадзены ацэнкі таго, што адбылося.

Македонскі палітык распавёў, што місія БДіПЧ АБСЕ пакуль не мае офісу ў Мінску, але новы міністр замежных спраў Беларусі і кіраўнікі Цэнтрвыбаркаму паабяцалі ў найбліжэйшы час вырашыць гэтае пытанне.

Антоніа Мілашоскі паведаміў, што 24 жніўня ў Беларусь прыбудуць 36 доўгатэрміновых назіральнікаў па лініі БДіПЧ АБСЕ, якія прадстаўляюць 19 краінаў, у тым ліку і постсавецкіх (Расію, Казахстан, Грузію ды іншыя). Яшчэ 270 кароткатэрміновых назіральнікаў ад Бюро з'явяцца ў Беларусі незадоўга да самых выбараў.

За дзесяць дзён да галасавання будзе апублікавана першая справаздача місіі. Папярэдні даклад па выніках назірання з'явіцца ўжо 24 верасня, на наступны дзень пасля асноўнага галасавання. На падрыхтоўку ж поўнай справаздачы місіі пойдзе да васьмі тыдняў.

ПАМЯЦЬ

# ПАЕЗДКА Ў КАТЫНЬ

Марат ГАРАВЫ

**23 жніўня, у дзень падпісання Пакта Молатава — Рыбентропа, адзначаецца Агульнаеўрапейскі дзень памяці ахвяраў нацызму і сталінізму, усталяваны Еўрапарламентам 2 красавіка 2009 года.**

У гэты дзень каля 50 прадстаўнікоў беларускай грамадскасці, у тым ліку родзічы палітвязняў, наведалі мемарыял «Катынь» каля Смаленску (Расія). Пра гэта паведаміла «НЧ» удзельніца акцыі Ганна Шапуцька. Арганізатарамі паездкі выступілі актывісты аргкамітэту па стварэнню руху салідарнасці «Разам» і міжнароднага гісторыка-асветнага, дабрачыннага і праваабарончага таварыства «Мемарыял», каардынацыйнай групы салідарнасці з палітзняволенымі «За волю» і «Руха «За Свабоду».

Удзельнікі акцыі таксама адзначаць дзень народзінаў палітвязня Міколы Дзядка, які адбывае пакаранне ў Шклоўскай выпраўленчай калоніі №17 (Магілёўская вобласць). Прадстаўнікі грамадскасці накіруюць Дзядку віншавальныя паштоўкі.

Як адзначыла Шапуцька, падобныя акцыі праводзяцца штогод, пачынаючы з 2009 года. Гэтай вандроўкай грамадскасць распачынае шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да 75-годдзя піку сталінскіх рэпрэсій 1937 года. Запланаваны таксама пасяджэнне круглага стала ў Мінску (28 жніўня) і ўшанаванне памяці ахвяраў сталінізму ў Курапатах з экскурсіяй, якую правядзе даследчык тэмы, гісторык Ігар Кузняцоў (29 жніўня).

Нагадаем, што Катынскае злачынства — гэта расстрэлы каля 22 тысяч палонных афіцэраў польскай арміі 1940 года ў Катыні, каля Харкава (Украіна) і Цверы (Расія); а таксама ў турмах Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Трэба мець на ўвазе, што сярод ахвяраў Катынскага злачынства шмат ураджэнцаў Беларусі.

САЛІДАРНАСЦЬ

# ПРА БЯЛЯЦКАГА РАСПАВЯЛІ Ў БАНГКОКУ

**Супрацоўнік офіса Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) у Бангкоку Шывэй Йэ даведаўся пра вечар па правах чалавека ў Беларусі, і наведаў мерапрыемства, каб звярнуць увагу на сітуацыю з палітвязнем, віцэ-прэзідэнтам FIDH Алесем Бяляцкім.**

Вечар, прысвечаны абмеркаванню сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, ладзіла трупа Свабоднага тэатра, якая прыехала ў Тайланд таксама для азнаямлення з досведам барацьбы супраць смяротнага пакарання.

На мерапрыемства Шывэй Йэ прыйшоў у саколцы з выявай Алеся Бяляцкага і з постэрам з патрабаваннем вызвалення старшыні ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH.

«Шоў беларускай трупы працягваецца, нягледзячы на небяспеку» — пад такой назвай у адной з галоўных тайландскіх газет выйшаў артыкул, у якім распавядаецца пра дзейнасць і пераслед Свабоднага тэатра з боку беларускага рэжыму, і пра сітуацыю ў Беларусі ўвогуле.

«Аляксандр Лукашэнка кіруе Беларуссю на працягу 18 гадоў. Зараз у яго чацвёрты пяцігадовы тэрмін пасля аспрэчваемых вынікаў выбараў, ён мае цесныя сувязі і падтрымку ад прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна», — піша выданне і, спасылаючыся на такія арганізацыі, як «Вясна», Беларускі Дом правоў чалавека, FIDH, Фонд Дамоў правоў чалавека, Human Rights Watch і Amnesty International, далей пералічвае асноўныя праблемы сённяшняй Беларусі: палітычныя вязні, пераслед актывістаў грамадзянскай супольнасці, наяўнасць «чорных спісаў» у краіне, смяротнае пакаранне.

spring96.org

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ШТРАФ ЗА БАЙКОТ

**Суд Савецкага раёна Мінска аштрафаваў актывістак аргкамітэта БХД Галіну Каржанеўскую і Іну Лойку на тры базавыя велічыні кожную. Суддзя — Аксана Рэлява.**

Як адзначылі самі актывісткі, яны чакалі больш жорсткага прысуду. «Ну што ж, з пенсіі я гэта пацягну. Калі правіннасць невялікая, то і сума пад'ёмная», — сказала Галіна Каржанеўская.

«Даволі мяккі прысуд. Мы рыхтаваліся да горшага», — падкрэсліла Іна Лойка.

Пры гэтым Галіна Каржанеўская адзначыла, што ў судзе заўважыла падтасоўку ў паказаннях нейкага Багданава, які сказаў, што ставіў подпісы за палітвязняў і ў яе, і ў Іны Лойкі, а за зарэгістраваную прэтэндэнтам у дэпутаты Марыну Хоміч яму ніхто не прапанаваў падпісацца. «Ён проста не мог ставіць подпісы ў двух чалавек. Альбо ў мяне, альбо ў Іны», — сказала яна.

Прэсавая служба БХД

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# АДНОЙ НАГОЙ У СГА, АБО ХОПІЦЬ ДАІЦЬ У ВЯДРО

Генадзь КЕСНЕР

**На гэтым тыдні галоўная службовая асоба дзяржавы надавала асаблівую ўвагу сельскай гаспадарцы, што і не дзіўна, бо працягваецца бязлітасная і бескампрамісная бітва за ўраджай–2012. На гэтым фоне амаль незаўважна ідзе кампанія па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, сачыць за якімі ў Беларусь прыбылі першыя замежныя назіральнікі. І ўжо паспелі атрымаць «на арэхі».**



Аляксандр Лукашэнка працягвае заставацца галоўным ньюсмэйкерам краіны. У той час, калі намалоты перавалілі за восем мільёнаў тон збожжа, самы час заняцца жывёлагадоўляй. Падчас рабочай паездкі ў Мінскую вобласць афіцыйны лідар нагадаў, што «задача рэканструяваць ці пабудаваць адзін малочна-таварны комплекс у кожнай гаспадарцы краіны да канца 2012 года застаецца нязменнай». Гэтую заяву пачулі ўсе, каго кіраўнік дзяржавы ўзяў з сабою ў тую паездку: чальцы ўраду, памочнікі прэзідэнта па абласцях, губернатары і намеснікі старшыняў аблвыканкамаў, якія адказныя за сельскую гаспадарку. Як паведамляе БелТА, «Аляксандр Лукашэнка правёў свайго кшталту практычныя заняткі і паказаў на канкрэтных прыкладах, а таксама патлумачыў, якімі мусяць быць сучасныя малочна-таварныя комплексы». І дадаў, што «сёння не ўсе адказныя асобы да канца разумеюць ягоныя патрабаванні, а таму пастаўленая задача выконваецца не ў поўным аб'ёме».

Можна сабе ўявіць, што адчулі тыя «адказныя асобы», якім адрасаваліся словы патрона. Дарэчы, рэканструкцыі «з улікам сучасных тэндэнцыяў развіцця малочнай жывёлагадоўлі» падлягаюць 1 200 малочна-таварных фермаў. «Малочна-таварныя фермы могуць быць трох відаў — прыкладна на 600, 800 ці 1000 галоў. Што тычыцца малакаправодаў, то яны, канешне, яшчэ застануцца, і не адзін год. Але ўжо сёлета трэба цалкам адысці ад даення ў вёдры», — адзначыў Лукашэнка. А чым жа будуць займацца даяркі? І застаецца толькі здагадвацца, колькі спатрэбіцца народных грошай на рэалізацыю пастаўленых кіраўніком дзяржавы задач ва ўмовах, калі сельская гаспадарка і так з'яўляецца датацыйнай, паглынаючы штогод трыльёны бюджэтных рублёў.

Дарэчы, відаць, пад уражаннем ад наведвання Адкрытага акцыянернага таварыства «Агракамбінат «Дзяржынскі» (па словах былога профільнага міністра Васіля Лявонава, даволі моцнай гаспадаркі) кіраўнік Беларусі прызначыў яго генеральнага дырэктара Леаніда Зайца міністрам сельскай гаспадаркі. Але ж адна справа — кіраваць адной гаспадаркай, хоць і буйной ды прагрэсіўнай, і зусім іншая — уздымаць непад'ёмныя пласты галіны, якая недалёка адышла ад савецкіх метадаў дзейнасці ды існавання ўвогуле. Застаецца толькі пажадаць новаму міністру поспехаў у яго нялёгкай справе.

Тым часам 22 жніўня Расія стала паўнавартасным 156-м чальцом Сусветнай гандлёвай арганізацыі (СГА). А напярэдадні, 21 жніўня, на гэтую тэму выказаўся ўсё той жа кіраўнік Беларусі, кажучы пра неабходнасць нарошчваць прадукцыю жывёлагадоўлі. «Нас жыццё прымусіць. Мы заўтра ў СГА. Гэта Расія — гігант — туды бабахнулася. Вы што, хочаце сказаць, што мы адмяжуемся ад іх? Не. Мы самі там ужо адной нагою. Нам давядзецца канкураваць. І калі мы паперадзе планеты ўсёй бегчы не будзем, нам няма чым падстрахавацца: у нас няма ні нафты, ні газу, ні золата. Вось наша золата», — указаў Лукашэнка на малочна-таварную ферму.

Рыгоравіч ужо даўно выказваўся на тэму СГА: маўляў, уступленне туды Расіі не акажа негатыўнага ўплыву на беларускую эканоміку. Бо «рэзервы ў нас каласальныя», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. Праўда, падрабязна не ўдакладніў, што гэта за рэзервы.

Кіраўнік Беларусі дадаў, што Расія, уступаючы ў СГА, узяла на сябе абавязацельствы падтрымаць Казахстан і Беларусь. «Мы з Расіяй, і з Уладзімірам Пуціным, і з Дзмітрыем Мядзведзевым гэтае пытанне абмяркоўвалі», — сказаў Аляксандр Лукашэнка. Ягоныя словы ў нейкай ступені спраўджваў і міністр замежных спраў РФ Сяргей Лаўроў: «Спрыянне падключэнню да СГА Беларусі і Казахстана ёсць адным з важных складнікаў усяго нашага супрацоўніцтва ў Мытным саюзе, Адзінай эканамічнай прасторы».

А вось незалежныя эксперты больш стрыманыя ў сваіх ацэнках. Эканаміст, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Леў Марголін мяркуе, што ўступленне Расіі ў СГА прынясе Беларусі больш мінусаў, чым плюсаў. «З аднаго боку, пры ўступленні ў СГА Расія прыняла на сябе пэўныя абавязацельствы па паэтапным зніжэнні мытаў, якія аўтаматычна распаўсюджваюцца на нашу краіну як удзельніцу адзінай мытнай прасторы, — адзначае эксперт. — З іншага боку, краіны-чальцы СГА могуць у любы момант уводзіць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі. Гэта і антыдэмпінгавыя расследаванні, і ўвядзенне квот датычна асобных таварных груп, і павышаныя ўвазныя мыты. Беларусь атрымала дзіўны статус — усе абавязкі чальца СГА, але ніякіх правоў».

Пра тое, што ў Беларусі ідзе парламенцкая выбарчая кампанія, сведчаць хіба што рэкі бруду на адрас апазіцыі, што льюцца з тутэйшых тэлеканалаў, ды хіба што прыезд у Мінск першых еўрапейскіх назіральнікаў — 21 жніўня ў Мінск прыбыла тэхнічная група назіральнікаў ад Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ (БДІПЧ АБСЕ). Нешматлікія сціплыя пікеты за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты альбо за байкот выбараў у залік спакойна можна не браць.

Дык вось, пра еўрапейскіх назіральнікаў. Не паспелі тыя ступіць на беларускую зямлю, як у іх бок ужо паляцелі стрэлы. Прычым з самога палітычнага «верху». Яшчэ на сустрэчы з міністрам замежных спраў Расіі Сяргеем Лаўровым Аляксандр Лукашэнка выказаў непрыхаванае незадавальненне, калі не сказаць абурэнне, прызначэннем старшынёй місіі назіральнікаў за парламенцкімі выбарамі ў Беларусі ад Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы італьянца Матэа Мекачы — кіраўніка камітэта па правах чалавека ПАСЕ. Нават паабяцаў зрабіць нейкія заходы ў адказ.

А 22 жніўня ўжо старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына ў інтэрв'ю газеце «СБ. Беларусь сегодня» заявіла: «Дэмакратыя БДІПЧ АБСЕ — вельмі добра арганізаваная бюракратыя пры нейкай гульні з грамадскасцю і сродкамі масавай інфармацыі». «Гэта страшная рэч, ёй супрацьстаяць немагчыма. Яна знішчае любога, хто трапляецца на яе шляху, вось гэтай сваёй агульнай кансалідаванасцю», — падкрэсліла Ярмошына. Проста дзіўна, як жа ж кіраўнічка ЦВК жывой вярнулася са сталіцы Аўстрыі Вены, куды ездзіла на семінар па назіранню за выбарамі — з мерапрыемства, ладжанага гэтай «жахлівай» АБСЕ. Прычым, нават не будучы ўязной у краіны Еўрапейскага саюза.

Файны пачатак для назіральнай місіі еўрапейцаў. І шматабяцальны. Прычым для ўсёй парламенцкай кампаніі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВОЛЬГА МАЗУРОНАК




Беларуска Вольга Мазуронак стала абсалютным пераможцам Сібірскага міжнароднага марафона, апярэдзіўшы не толькі жанчын, але і бегуноў-мужчын.

Сібірскі міжнародны марафон стартаваў у Омску ў спёку 37 градусаў. Беларуска Вольга Мазуронак прабегла дыстанцыю за 2 гадзіны 44 хвіліны 47 секунд і ўпершыню ў гісторыі гэтага марафону стала лепшай не толькі сярод жанчын, але і сярод усіх удзельнікаў. Другое месца сярод жанчын заняла яшчэ адна беларуская спартсменка Алена Адэская, трэцяй стала расіянка Юлія Смірнова. Перамогу сярод мужчын атрымаў Мікалай Грыгараў з Барнаула.

З-за спёкі многія прафесійныя бегуны, у тым ліку спартсмены з афрыканскіх краін, сышлі з дыстанцыі, так і не дабегшы да фінішу. Тэмпература паветра ў Омску ў дзень марафону дасягнула плюс 37 градусаў, асфальт нагрэўся да плюс 56 градусаў. Усяго на старт розных дыстанцый Сібірскага міжнароднага марафона выйшлі 680 чалавек з 17 дзяржаў: Аўстраліі, Беларусі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Ізраіля, Казахстана, Кеніі, КНР, Польшчы, ЗША, Таджыкістана, Украіны, Францыі, Эстоніі, ПАР, Японіі.

### ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ



Суд па новай крымінальнай справе лідара міжнароднай арганізацыі «Малады фронт» (Чэхія) Зміцера Дашкевіча пройдзе 28 жніўня ў папраўчай калоніі №13 (Глыбокае, Віцебская вобласць). Як паведамляецца на афіцыйным сайце «Маладога фронту», пасяджэнне суда будзе закрытым.

Нагадаем, 18 снежня 2010 года, напярэдадні выбараў прэзідэнта, Дзмітрыя Дашкевіча і яго паплечніка па «Маладому фронту» Эдуарда Лобава затрымалі ў сталіцы па абвінавачванні ў збіцці двух мінчукоў. 24 сакавіка 2011 года Дашкевіч быў асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Ён адбывае пакаранне ў Глыбоцкай калоніі №13.

Нядаўна ў дачыненні да Дашкевіча завялі новую справу — па частцы 1 артыкула 411 Крымінальнага кодэкса (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі). У выпадку прызнання віны, яму пагражае пазбаўленне волі тэрмінам да года. Цяпер Дашкевічу застаецца адбыць менш за пяць месяцаў пакарання.

Еўрапейскі саюз можа разгледзець дадатковыя меры ў дачыненні да Беларусі і ўвесці новыя санкцыі, калі сітуацыя ў краіне не будзе паляпшацца. Пра гэта 18 ліпеня заявіў еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства ЕС Штэфан Фюле, каментуючы прад'яўленне новага абвінавачвання Зміцеру Дашкевічу.

### УЛАДЗІМІР ПАНЦЮХОЎ



Старшыня Магілёўскага аблсавета Уладзімір Панцюхоў у інтэрв'ю газеце «Асіповіцкі край» негатыўна выказаўся на адрас апанентаў улады ды грэбліва ацаніў дэбаты паміж апанентамі. Каментуючы бліжэйшыя парламенцкія выбары ў Беларусі і іх ход у Магілёўскай вобласці, Панцюхоў адзначыў, што «падрыхтоўка да важнай палітычнай падзеі ў жыцці Беларусі праходзіць у нас спакойна і цывілізавана, без якіх-небудзь правакацыйных дзеянняў з боку апазіцыі».

У працяг адказу на пытанне карэспандэнта «Асіповіцкага краю» старшыня аблсавета сказаў пра тое, што «нясмелыя спробы апанентаў улады разгарнуць незразумелыя дэбаты былі, але ўсе іх целаварушэнні скончыліся нічым, і гэтыя патугі ў чарговы раз толькі пацвердзілі, якую вагу ў нашым здаровым грамадстве мае апазіцыя і што ўяўляюць яе лідары».

Таксама Уладзімір Панцюхоў выказаў стопрацэнтную ўпэўненасць, што выбары ў верасні пройдуць якасна і на высокім узроўні, а пэўнае абнаўленне дэпутацкага корпуса пойдзе ўсім толькі на карысць.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДЗВЕ ДЭКЛАРАЦЫІ

Сяргей НІКАЛЮК



**Чалавек традыцыйны ад чалавека сучаснага найбольш яскрава адрозніваецца паводле стаўлення да Другой сусветнай вайны.**

Год таму, 23 жніўня, у Варшаве міністры юстыцыі краін ЕС падпісалі Варшаўскую дэкларацыю ЕС з нагоды Еўрапейскага дня памяці ахвяр таталітарных рэжымаў. Дату абралі невыпадкова. 23 жніўня 1939 года ў Маскве была падпісана Дамова пра ненапад паміж Германіяй і СССР, вядомая як пакт Молатава — Рыбентропа.

Працытую першы абзац дэкларацыі: «Прымаючы да ўвагі факт, што Еўропа пакутавала пад уладай таталітарных рэжымаў, незалежна ад таго, ці тое быў камунізм, нацыянальны сацыялізм ці любы іншы, якія прывялі да неверагоднага парушэння асноўных правоў і да поўнага адмаулення чалавечай годнасці, сярод якіх Халакост з'яўляецца самым страшным прыкладам».

## З кім збіраць шчаўе?

Разгледзім цытату праз прызму «Азбукі культуралогіі». Чалавек вылучыўся са свету прыроды пасля таго, як навучыўся ствараць сэнсы. У аснове ўсякага сэнсаўтварэння палягаюць крайнасці (бінарныя апазіцыі). Іх спіс бясконцы, але ўзначальвае яго апазіцыя Дабро — Зло. Яна палягае ў аснове ўсіх сусветных рэлігій. Нагадаю яе «вытворныя»: Бог — Д'ябал, Рай — Пекла, Святло — Цемра.

«Механізмы аперавання бінарнымі апазіцыямі, — адзначае культуролаг Андрэй Пеліпенка, — у культуры маюць ключавое значэнне». У заходняй культуры важным кампанентам такога механізму з'яўляецца дыялог. З яго дапамогай ажыццяўляецца стыкоўка процілеглых пунктаў гледжання, г. зн. медыяцыя (лац. «mediana» — «сярэдняя»).

Традыцыйная беларуская культура не ведае дыялогу, а таму аддае перавагу не медыяцыі, а максімальнай палярызацыі любых пунктаў гледжання і ацэнак. Не варта пасля гэтага дзівіцца, што перанесены з заходняй культуры на беларускую глебу інстытут заканадаўчай улады (парламент) не здольны выконваць ролю сацыяльнага медыятара. Але якраз у гэтым і палягае яго галоўная задача!

У беларускім парламенце няма фракцый. Гэта калектыў аднадумцаў, што ўспрымаюць сваіх палітычных апанентаў як «адмарозкаў», з якімі яны ў адным полі не сядуць шчаўе збіраць, не тое што абмяркоўваць антыкрызісную праграму.

Для тыповага прадстаўніка традыцыйнай культуры сутнасць гістарычнага працэсу зводзіцца да смяротнага змагання Дабра са Злом. Праілюструю тое на прыкладзе ацэнкі «адзіным палітыкам» (АП) Другой сусветнай вайны: «Это было не просто военное столкновение разных народов и стран. Смысл мировой битвы с нацизмом гораздо глубже, мощнее. Впервые в человеческой истории зло не скрывало своего облика». Але, нягледзячы на тое, што «Европа пала к ногам победителя», Злу не наканавана было перамагчы, бо супраць яго выступілі «силы добра и света».

А зараз яшчэ раз перачытайце фрагмент Варшаўскай дэкларацыі. Зразумела, што з такім поглядам на Другую сусветную вайну АП ніколі не пагодзіцца, зрэшты, як і мільёны беларусаў.

## Культпаход у бібліятэку

Каб сфармаваць уласнае меркаванне наконт падзей, старт якім быў дадзены 23 жніўня 1939 года, я накіраваўся ў бібліятэку Цэнтральнага дома афіцэраў, што знаходзіцца побач з будынкам адміністрацыі АП. Мяне цікавілі кнігі выключна савецкага перыяду. У іх шмат ідэалогіі, але сустракаецца і зерне інфармацыі, не заўважанае ў свой час цэнзарамі, а таму захаванае ў першапачатковым (аўтарскім) варыянце.

**Перанесены з заходняй культуры на беларускую глебу інстытут заканадаўчай улады (парламент) не здольны выконваць ролю сацыяльнага медыятара**

«Шукайце і знойдзеце», — сказана ў Евангеллі ад Матфея. Я шукаў і здабыў шуканае на старонцы 134 у кнізе «Чырванасцяжная беларуская ваенная акруга», выдадзенай у Мінску ў 1973 годзе. Прывяду апісанне вызвалення Брэста ад сіл Зла сіламі Дабра і Святла ў верасні 1939 года: «Генеральны штаб паведаміў у акругу ўдакладненую дэмаркацыйную лінію паміж нашымі і нямецкімі войскамі. Аднак на брэсцкім накірунку ўказаная лінія была парушана войскамі нямецкай групы армій «Поўнач». Матарызаваны корпус гэтай групы пад камандаваннем генерала Гудэрыяна пераправіўся праз Буг і захапіў значны раён вакол Брэста. Камдзіў Чуйкоў, армія якога накіроўвалася да Брэста, загадаў камандзіру танкавай брыгады С.М. Крывашэіну заняць Брэст і прымусіць нямецкія войскі адысці за Буг. У Брэсце адбылася сустрэча Крывашэіна з Гудэрыянам. У ёй браў удзел і супрацоўнік Народнага камісарыята замежных спраў. Нашы прадстаўнікі запатрабавалі ад нямецкага камандавання неадкладна адвесці ўсе нямецкія часткі за дэмаркацыйную лінію, а падрыхтаваную для эвакуацыі з Брэста ў Германію ваенную і цывільную маёмасць пакінуць на месцы. Гэта патрабаванне было выканана».

Вось як, высвятляецца, можна вызваляць гарады ад сіл Зла! Галоўнае — папярэдне ўзгадніць дэмаркацыйную лінію. Але гэта не ўзровень Чуйкова і Крывашэіна. Яны — толькі тэхнічныя выканаўцы. Для таго, каб разглядзець першакрыніцу Дабра і Святла, галаву давядзецца задраць як мага вышэй.

Але і тэхнічныя спецыялісты здольныя стаць крыніцамі Святла, хай і прыглушанага. Не ведаю, як Чуйкоў, але камбрыг Крывашэін адназначна. Захавалася стужка кінахронікі, на якой адлюстраваны камбрыг Сталіна, што разам з Гудэрыянам прымае парад савецка-нацысцкіх войскаў 22 верасня 1939 года ў Брэсце.

Камбрыг скончыў вайну генерал-лейтэнантам, героем Савецкага Саюза. У 1964 годзе ён выдаў кнігу ўспамінаў «Междубурье», у якой на старонках 258–261 падрабязна апісаў сумесны парад сіл Дабра і Зла.

## Палявы статут 1939 года

Тут галоўнае — не пераблытаць, дзе Дабро, а дзе Зло. У рамках традыцыйнай культуры бінарныя апазіцыі здольныя мяняцца месцамі ў інверсійным рэжыме, што ўжо неаднаразова здаралася ў айчыннай гісторыі. Такія ракіроўкі не пакідаюць без працы прафесійных служак музы гісторыі Кліа. На карэкціроўцы падручнікаў гісторыі яны навучыліся добра зарабляць.

Але працягнем пошук інфармацыйных зерняў, прапушчаных у свой час савецкімі цэнзарамі. Першы том «Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза 1941–1945» (Ваеннае выдавецтва МА. М., 1960) дазваляе нам сфармаваць уласнай меркаванні з нагоды праваакацыйных сцвярджэнняў здрадніка Радзімы Суворава — Рэзуна пра планы СССР напасці на Германію летам 1941 года.

Не, нічога такога наўпрост у першым томе не сцвярджаецца. Наадварот, я лёгка адшукаў шматлікія запэўненні ў тым, што агрэсіўныя мэты варожыя «самой природе Савецкай дзяржавы». Адсутнасць такіх мэтаў мусіла адбіцца на спецыфіцы савецкай даваеннай дактрыны, якая прадугледжвае поўны разгром ворага на яго тэрыторыі.

Падмацую сказанае цытатай: «Галоўным відам ваенных дзеянняў для дасягнення гэтых мэтаў з'яўляўся наступ, тэарэтычнай распрацоўцы якога надавалася асноўная ўвага... Савецкая стратэгія прызнавала абарону неабходным відам узброенай барацьбы, але падкрэслівала яе другасную ролю перад наступам... Пытанне пра контрнаступленне як адмысловы від стратэгічнага наступу да Вялікай Айчыннай вайны не ставілася, нягледзячы на багаты досвед контрнаступлення падчас грамадзянскай вайны 1918–1920 гг.»

Несумяшчальнасць міралюбнай прыроды Савецкай дзяржавы з агрэсіўнымі намерамі пацвярджаецца і цытатай з Палявога статуту 1939 года: «Калі вораг навяжа нам вайну, Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія будзе самай нападаючай з усіх калі-небудзь нападаючых армій».

Галоўнае, каб вораг навязаў нам вайну. Не ў сэнсе нападу першым, змушаючы тым самым Чырвоную Армію контратакаваць (такі від баявых дзеянняў савецкая стратэгічная дактрына не прадугледжвала), а менавіта навязаў. Напрыклад, так, як навязала вайну Фінляндыя ў 1939 годзе. І вось тады, «гремя огнем, сверкая блеском стали, пойдут машины в яростный поход». І тут ужо не крыўдуйце, міралюбная прырода Савецкай дзяржавы пакажа сябе ў поўнай красе.

## Дабро сярэдняга радыусу дзеяння

Дарэчы, пра машыны, здольныя «греметь огнем» і «сверкать блеском стали». Колькі іх было ў Чырвонай Арміі на пачатак вайны? У першым томе Гісторыі ВАВ няма ніводнай абсалютнай лічбы ні па адным з відаў узбраенняў, але ёсць падказкі, якія дазваляюць самастойна ацаніць іх парадак.

Самай нападаючай з усіх калі-небудзь нападаючых армій прарываць абарону саперніка належала франтамі. Шырыня паласы фронту ў наступальнай аперацыя планавалася ад 150 да 300 кіламетраў, а норма аператыўнай шчыльнасці танкаў на 1 кіламетр прарыву закладвалася ў межах 50–100 штук. Такім чынам, фронту для прарыву абароны (без аператыўнага і стратэгічнага рэзерву) спатрэбілася б ад 7,5 да 30 тысяч танкаў.

А што мелася ў наяўнасці? Звернемся да Вялікай савецкай энцыклапедыі. На пачатак вайны ў войсках, якія прыкрывалі заходнюю мяжу СССР, было 1 800 цяжкіх і сярэдніх танкаў і «значная колькасць лёгкіх танкаў састарэлых канструкцый». Значная — гэта колькі?

Ужо пасля перабудовы я цікавіўся ў свайго бацькі, які скончыў службу ў войску намеснікам камандуючага ракетнымі войскамі Беларускай ваеннай акругі (БВА), наконт адсутнасці ў Беларусі абарончых збудаванняў. «А іх няма», — такі быў адказ. БВА — гэта выключна наступальная групоўка.

Мае школьныя гады прайшлі ў ваенным гарадку Станькава, дзе бацька камандаваў ракетнай брыгадай. Падчас штабных вучэнняў яму неаднаразова даводзілася здзяйсняць начныя кідкі да мяжы ФРГ. Радыус дзеяння тактычных ракет не перавышаў 300 кіламетраў. Данесці свой ядзерны патэнцыял Дабра і Святла заходнім немцам з тэрыторыі Беларусі тактычныя ракеты былі не ў стане, таму і даводзілася асвойваць шляхі іх дастаўкі непасрэдна да мяжы вераготнага ворага.

У Дэкларацыі аб утварэнні СССР стварэнне «новай саюзнай дзяржавы» разглядалася ў якасці кроку «па шляху аб'яднання працоўных усіх краін у сусветную Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку». Для ажыццяўлення запланаванага быў патрэбны тып чалавека, што ўспрымае свет як арэну, на якой Дабро ўступіла ў апошняе і рашучае змаганне з сусветным Злом. Такі тып чалавека пачаў актыўна фармавацца ў эпоху Дуалістычнай рэвалюцыі каля тысячы гадоў да нашай эры. Ён і сёння досыць папулярны — асабліва ў ісламскім свеце, але не толькі. Каб у гэтым пераканацца, трэба толькі ўключыць тэлевізар.

МІГРАЦЫЯ

# ПРЫГАДЗІЎСЯ ДЗЕ НЕ НАРАДЗІЎСЯ

Вольга ХВОІН

**За 11 гадоў з вёскі ў горад з'ехала паўмільёна маладых беларусаў.**

У асноўным з'язджалі жанчыны. У выніку цяпер у беларускай вёсцы на 10 юнакоў прыпадае 8 дзяўчат, падлічыў Нацыянальны статыстычны камітэт. У гарадах пражывае 82% моладзі краіны і толькі 18% — у сельскай мясцовасці. Колькасць сельскай моладзі за апошнія 12 гадоў скарацілася на 174,6 тысяч чалавек (на 30%). Паводле прынятых у Беларусі нормаў, кожны чацвёрты жыхар краіны належыць да моладзі (катэгорыя насельніцтва ва ўзросце ад 14 да 31 года).

На пачатак гэтага года ў рэспубліцы налічвалася 2 мільёна 291 тысяч маладых людзей. Амаль 38% з іх — жыхары Мінска і Мінскай вобласці (865,4 тысячы чалавек). І толькі кожны дзявяты малады чалавек ва ўзросце ад 14 да 31 года пражывае ў Гродзенскай ці Магілёўскай абласцях.

Памяншэнне колькасці сельскай моладзі звязана, перш за ўсё, з міграцыйным адтокам у гарады, растлумачылі ў Белстаце. Так, з 2000 па 2011 год з вёскі ў горад з'ехала больш за 500 тысяч чалавек ва ўзросце ад 14 да 31 года, а прыехала ў вёску на пастаяннае месца жыхарства з горада больш за 300 тысяч чалавек.

Большасць тых, хто выязджае з сельскай мясцовасці, — маладыя людзі, якія пераехалі ў горад для працягу адукацыі або працаўладкавання. У мінулым годзе ўдзельная вага асоб ва ўзросце 16–30 гадоў у агульнай колькасці тых, хто выехаў з сельскай мясцовасці ў гарады, склала 55,8%.

Сярод мігрантаў «вёска-горад» пераважаюць жанчыны (55,9%), і гэтая тэндэнцыя захоўваецца на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Яе вынікам стаў дысбаланс колькасці мужчын і жанчын, што выяўляецца ў недахопе нявест на вёсцы. Так, на пачатак гэтага года на 1000 сельскіх мужчын ва ўзросце 20–29 гадоў, калі найбольш актыўна ствараюцца сям'і, было толькі 794 жанчыны гэтага ж узросту.

У Беларусі на ўзроўні вышэйшага кіраўніцтва не першы год спрабуюць рэанімаваць вёску ды зрабіць яе прывабнай для моладзі. Справа гэта нятанная. Праграма развіцця вёскі ў 2005–2010 гадах пацягнула на 53 мільярда долараў. Гэты буйны інвестыцыйны праект мусіў істотна палепшыць жыццё ў беларускай вёсцы, зрабіць вёску прыкметным экспарцёрам прадуктаў харчавання, стварыць умовы для харчовай бяспекі і г. д. «Але шэраг найважнейшых мэтавых задач не дасягнуты, эканоміка АПК знаходзіцца ў няпростым стане. Патрабуюць дасканаласці падыходы да эксплуатацыі жылля і інфраструктуры аграгарадкоў, у наяўнасці абыякавае стаўленне да гэтых фондаў многіх грамадзян, якія пражываюць у пабудаваных дзяржавай і гаспадаркамі дамах», — падводзіў вынікі пяцігодкі прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч. Праграма на наступныя пяць гадоў мае ярка акрэсленую экспартную накіраванасць.

Тым часам з вёскі, як і ў савецкі час, масава выязджаюць маладыя людзі, бо міграцыя застаецца сацыяльным ліфтам, які дазваляе атрымаць няцяжкую фізічную працу з прыстойным заробкам, мінімум сацыяльных і культурных даброт. Лідзіруе па прытоку моладзі Мінск.

«За кошт унутрырэспубліканскай міграцыі сталіца пастаянна папаўняецца маладымі працоўнымі рэсурсамі. Больш за 80% міграцыйнага прыросту насельніцтва Мінска прыпадае на групу 15–19 гадоў. У гэтым узросце моладзь, якая скончыла школу, з усіх куткоў нашай краіны паступае ў сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, а паколькі найбольшая іх колькасць размешчана ў сталіцы, то і асноўная плынь мігрантаў накіроўваецца ў Мінск. На гэту ўзроставую групу прыпадае каля паловы ўсіх мігрантаў, што прыбываюць у сталіцу, — цытуе рэсурсны цэнтр ЮНФПА даследаванне па міграцыі ўнутры Беларусі. — У абласных цэнтрах таксама прасочваецца тэндэнцыя высокай міграцыйнай актыўнасці жанчын ва ўзросце 15–24 гадоў. Аднак калі для Мінску характэрныя прырост насельніцтва ва ўзроставай групе 15–19 гадоў і адток у 20–24 гады, то ў абласных цэнтрах назіраецца супрацьлеглая сітуацыя. Нягледзячы на прыток моладзі на вучобу з раённых цэнтраў і сельскай мясцовасці, усе абласныя цэнтры губляюць сваё насельніцтва ва ўзросце 15–19 гадоў пры абмене насельніцтвам з Мінскам».

«Праблема беларускай вёскі складаная, комплексная. Але ёсць некалькі падставовых рэчаў, на якія найперш варта было б звярнуць увагу», — гаворыць Зміцер Бабіцкі, эксперт CASE-Belarus, адзін з аўтараў выдання «Рэйтынг гарадоў Беларусі: умовы развіцця чалавечага капіталу». Ён мяркуе, што цэнтралізаваная форма дзяржаўнага кіравання не спрыяе адэкватным заробкам у сельскагаспадарчай сферы: «Дзяржава пераразмяркоўвае прыбыткі і вырашае, хто колькі зарабіць на малацэ, — колькі атрымае даярка, колькі малочны завод, а колькі крама. Калі б цэнаўтварэнне было свабодным, то рынак сам бы пераразмеркаваў прыбыткі. Не факт, што на карысць вёскі, але тым не менш, магчыма, і вёска атрымлівала б за сваё малако больш, чым цяпер».

Яшчэ адна прычына нежадання людзей жыць на вёсцы, на думку эксперта Бабіцкага, — немагчымасць разбагацець.

«У нас на вёсцы няма магчымасцяў для канцэнтрацыі капіталу. У сельскай гаспадарцы немагчыма канцэнтраваць, назапашваць капітал, бо там фактычна няма прыватнай уласнасці. Ты працуеш-працуеш, але ўсяго толькі як наёмны рабочы. У нас толькі адзінкавыя прыклады прыватных фермерскіх гаспадарак. Калі б калгасы былі расфармаваныя, былі ўведзеныя прыватныя землі, то дзеці заможных сялян перасталі б імкнуцца ў горад, бо даброты ў іх былі б і дома. Вось таму аграгарадкі, вясковыя клубы — гэта не вырашэнне сітуацыі», — падкрэслівае Зміцер Бабіцкі.



politics.livejournal.com

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# КАБ НІКОЛІ НЕ АКРЫЯЛІ

**У медыйнай прасторы Беларусі ў чарговы раз залунала прыдуманае некалі Леніным слоўца — НЭП. Новая эканамічная палітыка.**



Колькі разоў такое было. Прачынаешся раніцай і чуеш: зараз мы станем жыць па-новаму. Лепей і яшчэ не раз лепей. Каму лепей? Як будзе тое «лепей» зроблена? Пра гэта распавёў, як яно і належыць, міністр эканомікі Мікалай Снапкоў. Яго міністэрства, вызначаючы параметры развіцця народнай гаспадаркі краіны, прапануе падзяліць функцыя дзяржаўнага рэгулятара і ўласніка. Маўляў, няхай галіновыя міністэрствы займаюцца стратэгічным планаваннем бізнэсу, а аператыўнае кіраванне прадпрыемствамі возьмуць на сябе кіраўнікі вытворчасці. Такая пастаноўка пытання, што называецца рубам, не выклікае прынцыповых пярэчанняў. Яшчэ напачатку 90-х гадоў беларускія рэфарматары, ацэньваючы такі падыход як вельмі прагрэсіўны, прыводзілі ў прыклад французскі канцэрн «Рэно». Застаючыся ва ўласнасці дзяржавы, той дэманстраваў выключную канкурэнтаздольнасць, працаваў прыбыткова і плаціў дзяржаве добрыя падаткі.

На самай справе, навошта прыдумляць веласіпед? Бяры чужы досвед — і карыстайся. Але нездарма ў тыя ж часы нарадзіўся знакаміты афарызм Віктара Чарнамырдзіна: хацелі, як лепей, а атрымалася, як заўжды. На адным з пасяджэнняў БНПА былы гендырэктар Міхаіл Лаўрыновіч адзначыў, што «Рэно» — паспяховае дзяржпрадпрыемства, якое працуе ў рынкавых умовах, бо яго кіраўнікі маюць ад дзяржавы поўны карт-бланш. У межах абумоўленага тэрміну на прадпрыемства не ходзяць розныя праверкі, ніхто не лезе ў справы дырэктара, не даводзяць ні валавых, ні іншых падвышаных абавязацельстваў, не змушае вырабляць прадукцыю падчас кан'юнктурнага спаду і тым самым звязваць сродкі ў выглядзе складскіх запасаў.

Увогуле, ці мала слушных прэтэнзій мае дырэктар такога гіганта, як МАЗ, да шматлікіх чыноўных інстанцый, што выдаюць яму прадпісанні на кожны крок. Нарэшце, прадпрыемства робіцца падобным да сараканожкі, якой выдалі інструкцыю, якую нагу ставіць першай, калі тая пачынае рух, і ў якой паслядоўнасці трэба пераставіць ногі.

Меў пачуццё гумару спадар Лаўрыновіч, але і тады, і зараз ва ўрадзе і адміністрацыі колькасць асобаў, здольных паглядзець на сітуацыю з мінімальна неабходнай для поспеху справы іроніі, неверагодна малая. Большасць не забываецца на сваё адказнае дзяржаўнае прызначэнне нават на трапічным курорце, мілуючыся з даўганогай каханкай.

Што трэба змяніць? Як лічыць няўрадавы эканаміст Леў Марголін, зараз дзяржава аб'ядноўвае ў сваёй асобе тры функцыі, якія ва ўсім свеце лічацца ўзаемна несумяшчальнымі: дзяржава вызначае правілы гульні, спрыяе (ці нават гуляе на карысць аднаго з бакоў), ды яшчэ і ацэньвае вынікі гульні. Гэта значыць, што яна выконвае таксама і ролю арбітра. І допінгавага кантралёра.

Даведаўшыся пра гэта, большасць з патэнцыйных інвестараў адмаўляецца ад намераў укладваць капіталы ў нашу гаспадарку. Для іх такая практыка і дзіўная, бо патэнцыйна спрыяе карупцыі, і амаральная, паколькі гарантуе аднаму з гульцоў прывілеі за кошт замежнага партнёра. Але тутэйшыя людзі ўжо нікому і нічому не здзіўляюцца. Бо згодна з гэтай схемай вызначаюцца стасункі паміж наймальнікамі і прафсаюзамі ў так званым трыпартызме, дзе дзяржава — і вызначальнік правіл гульні, і буйнейшы наймальнік, і адначасова «незалежны» арбітр. Няма ніякага дзіва, што менавіта ў Беларусі (мусіць, адзінай на прасторы былога СССР) сістэма тэрміновых кантрактаў даведзена да кожнага працоўнага месца. Тое ж самае адбываецца і ў палітыцы.

Зусім не выпадкова пры такім разуменні сутнасці трыпартызму, нягледзячы на кантрактную сістэму, стан працоўнай дысцыпліны пастаянна пагаршаецца, а сярод звольненых з працы група парушальнікаў (прагульшчыкі, п'яніцы) займае другое па колькасці месца.

На фоне кадравых ды іншых перамен, якія робяцца апошнім часам, выклікае цікаўнасць менавіта пастаноўка пытання. Бо вельмі часта людзі, рашуча настроеныя і нават здольныя рабіць нейкія радыкальныя змены ў межах сваёй кампетэнцыі, змушаны выказваць свае намеры, так бы мовіць, гомеапатычнымі дозамі. Маўляў, набярэцца нейкая крытычная маса зменаў, і аднойчы ўся сітуацыя карэнным чынам набудзе добра бачныя прыкметы патрэбнай якасці. Але такое адбываецца збольшага ў тэорыі, якую ў нас абралі для вызначэння напрамку развіцця. Сярод іншых абсалютная большасць ажыццявіла комплекс хуткіх і рашучых рэформ. Як некалі патлумачыла беларускім крытыкам першы па ліку прэм'ер незалежнай Літвы Прунскене, рашэнне пра ліквідацыю калгасаў было палітычна матываваным. Трэба было развальіць іх так, каб яны ніколі не акрыялі.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Я ЯГО АБДЫМУ... І ЗАСНУ НА НЕКАЛЬКІ ДЗЁН

**Яны чакаюць, спадзяюцца, прымхліва баяцца гаварыць пра прагнозы і мары, змагаюцца за чатыры дадатковыя грамы ў бандэрольцы мужу. Стараюцца трымаць вочы сухімі, а галаву горда ўзнятай. Жартуюць, кранальна называюць адна адну «сястра», абураюцца пустым словам, робяць усё магчымае і чакаюць, чакаюць, чакаюць... Яшчэ ўчора пра абранніц беларускіх палітвязняў ведалі хіба што толькі іх блізкія, а сёння яны вымушаныя стаць публічнымі асобамі. І, трэба прызнаць, з новай роляй спраўляюцца годна.**

**З адной з іх, жонкай Міколы Статкевіча — Марынай Адамовіч, гутарыць журналіст НЧ Вольга Хвоін.**



Фота аўтара

Наталля Пінчук і Марына Статкевіч

***— Марына, ці ёсць у вас нейкія прагнозы, калі Міколу можна чакаць на свабодзе?***

— Думаю, у тых, хто хоча, каб Мікола і іншыя палітвязні ніколі не выйшлі з турмаў, няма ні сродкаў, ні магчымасцяў, ні гістарычнага часу для гэтага. Я не веру, што ўлады змогуць трымаць Міколу шэсць гадоў. Хаця ўжо і прайшло два гады. Надзея паміраe апошняй... Я не ведаю ніякай новай інфармацыі наконт пазіцыі Еўропы. Але той факт, што еўрапейскія палітыкі не змянілі свайго стаўлення да беларускай сітуацыі, што вытрымана паўзлі сябе пасля фактычна высылкі шведскага пасла Стэфана Эрыксана, мяне радуе. Еўрапейцы рэдка робяць радыкальныя крокі, таму не думаю, што яны адмовяцца ад нашых нафта-газавых паставак. Але ўсё ж спадзяюся, што эканамічныя інтарэсы не перавысяць еўрапейскую салідарнасць.

Я шмат гадоў удзяляла ўвагу працы партыі. Але менавіта ад гэтай кампаніі на яго просьбу я дыстанцыявалася. Міколу быў патрэбны тыл, бо ён выдатна разумеў, чым удзел у прэзідэнцкіх выбарах можа абярнуцца. Мы ніколі не гаварылі пра гэта, але я перакананая — ён разумеў. У адрозненні ад сённяшніх нашых байкотчыкаў, ён выкарыстоўваў тую кампанію напоўніцу, каб праз адзіную легальную магчымасць данесці людзям праўду, мабілізаваць іх. Я падтрымліваю тых, хто ідзе ў палітычныя кампаніі, каб гаварыць праўду, у тым ліку і пра палітвязняў. Я не разумею тых, хто ладзіць свае кампаніі байкоту ў інтэрнэце, вышчучваючы іншадумцаў і прыкрываючыся тымі ж палітвязнямі! Седзячы на канапе, Беларусь дакладна не зменіш!

***— Як мяркуеце, лідарам нацыі можа стаць вось такі нязломны чалавек, ці ўнутраны стрыжань, сіла духу не важныя?***

— Можа стацца па-рознаму. У цяперашні інфармацыйны век героя робяць націсканнем клавішаў на клавіятуры, ствараючы пустыя персанажы, якія займаюць увагу людзей. Але ўсё ж у нацыі мусіць быць чалавек, які стане маральным аўтарытэтам. Інакш яна проста развaліцца. А хто будзе займаць пасады ці публічна выступаць — гэта ўжо іншая справа.

***— За гэты час вы мелі многа зносінаў з людзьмі, якія працуюць у дзяржаўнай сістэме. Якое ўражанне ў вас склалася пра іх?***

— Я зараз пазбягаю кантактаў з імі, стамілася... Не ўсе гатовыя да апошняга выконваць загады. Але ў цэлым гэтая сістэма працуе бездакорна, на вялікі жаль. Ёсць рэпрэсіўны апарат, і тыя, хто ў ім працуюць, разумеюць, што робяць, нервуюцца. Але самы вялікі страх у іх выклікаюць працадаўцы, а не сумленне, адказнасць перад людзьмі, будучыня.

***— Чым жывуць жонкі «дзекабрыстаў»?***

— Бываюць абсалютна пустыя дні, а бываюць і такія, калі многа сустрэч з людзьмі, якія не абыякавыя да сітуацыі, хочуць нечым дапамагчы. Мы стварылі камітэт сваякоў «Вызваленне» літаральна на прыступках КДБ, куды ішлі, каб адправіць хоць нейкую перадачу, як вестку з волі, сваім родным. Ініцыятыва была Вольгі Бандарэнкі, і за гэта я ёй бясконца ўдзячная. Але пры ўсіх праявах салідарнасці выйсць у прамым сэнсе гэтага слова бывае вельмі складана, і толькі нашая падтрымка адзін аднаму дапамагае. Дзіма Бандарэнка неяк назваў нас у лісце да Волі сёстрамі, і я з ім згодная. Мы сталі вельмі блізкія, многія святы разам праводзім, вось дзень народзінаў Міколы Статкевіча таксама супольна адзначалі.

***— Распавядзіце, што за падарунак Міколу Статкевічу быў падрыхтаваны?***

— Неабыякавыя людзі зладзілі пэўныя дзеянні, якія мусілі паказаць, што пра яго не забыліся. І вось літаральна сёння я атрымала ліст, у якім Мікола піша, хоць і для турэмнай цэнзуры, што ведае пра тыя ўчынкі. І, што мяне кранае да дрыжыкаў унутры, іншыя вязні чакалі нейкага дзеяння ў яго дзень народзінаў, і адрэагавалі на той феерверк, і ніхто не засумняваўся, дзеля каго гэта было. Мне казалі, што турма крычала: «Ура! Поздравляем! Жыве Беларусь!» І гэта пры тым, што Міколу старанна ізалююць ад іншых вязняў, каб не было камунікацый.

Мікола Статкевіч у турме на строгім рэжыме. Праз паўгода маглі б перагледзець рэжым утрымання, але яго пакінулі на нявызначаны тэрмін. Спатканне немагчымае. Адзінае, дазволенае сёлета, ужо было ў чэрвені — праз краты, двайное шкло, кепскі тэлефон...

***— Як вы з'явіліся ў жыцці Міколы, а ён у вашым?***

— Прыватнае жыццё на тое і прыватнае, што пра яго ніхто не ведае (усміхаецца). Мы пазнаёміліся шмат гадоў таму дзякуючы нашаму агульнаму знаёмаму Міколу Міхноўскаму, які працаваў у Доме літаратара, што быў тады прытулкам вальнадумцаў. Міхноўскі адурыў мне галаву нядаўна створаным Згуртаваннем беларускіх вайскоўцаў і яго кіраўніком — класным хлопцам Міколам Статкевічам. Хаця я вельмі крытычна гляджу на любыя празмерныя ацэнкі. Вось там мы і пазнаёміліся.

***— Раскажыце крышку пра сваё паходжанне. Адкуль ваша стойкасць характару і вытрымка?***

— Дзякуй за камплімент. Я не ведаю, адкуль гэта. У маім родзе ёсць ці не ўсе саслоўі — і шляхта, і святары, і сяляне. Характар, відаць, ад бацькоў, сямейнай традыцыі. Хаця я не лічу сябе вельмі вытрыманай, часам я ўсё ж паддаюся эмоцыям.

***— Апошнія два гады былі вельмі няпростымі для вас. Ці зрабілі вы нейкія высновы для сябе ў плане стасункаў з дарагім чалавекам?***

— Ведаеце, мы заўсёды адзін аднаго бераглі, ведалі, што мы важныя адзін аднаму. Нават калі здаралася сварка, я заўсёды ведала: гэта мой чалавек, іншага мне не дадзена, дый не трэба! Таму цяпер я толькі радуюся, што ў кожным лісце, на нашых двух спатканнях я не пабачыла пераменаў у Міколу. Мы быццам бы і не расставаліся, быццам бы ён выйшаў на хвіліну на кухню прыгатаваць мне каву.

***— Вы думалі, што будзеце рабіць, калі Мікола вернецца на свабоду?***

— Часам я настолькі стомленая, нявыспаная... Я сама не разумею, як я цяпер жыву, бо стала вельмі мала спаць. І вось я яго ўбачу, абдыму... і засну на некалькі дзён (смяецца). Але, канешне, я б хацела, каб мы некуды разам паехалі. Мы вельмі любім падарожжы, доўгія шпацыры. Калі адпачываем, то праходзім за дзень па 10–15 кіламетраў — уздоўж мора, лесу... Любім плаваць — доўга і далёка. Усяго гэтага мне не хапае. Так прыемна ў часе адпачынку недзе сядзець на тэрасе, глядзець на мора, піць чырвонае віно... Тое, што мы любім, не змянілася.

***— Марына, у вас дарослы сын. Як вы змаглі наладзіць сувязь паміж двума любымі мужчынамі?***

— Юра вельмі паважае Міколу, сын ва ўсім мяне падтрымлівае. Часам ён бывае парывістым, імпульсіўным, але мой сын вельмі надзейны чалавек. Ужо 20 снежня 2010 года ён узяў адпачынак на два тыдні і правёў іх разам з сябрамі на сядзібе БНФ, займаючыся дапамогай вязням Плошчы.

На сустрэчу з Марынай прыходзіць Наталля Пінчук — жонка вядомага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Наталля спачатку сціпла адмаўлялася ад размовы: «Я ніколі не бяруся канкураваць з Марынай. Мне часам тэлефануюць з прапановамі з тэлебачання прамых уключэнняў, але я адмаўляюся. Вось Марына ўмее весці размову!» Але, трэба прызнаць, што вытрымцы, уменню годна паводзіць сябе Наталлі Пінчук можна пазайздросціць. Яшчэ падчас судовага працэсу над Алесем Бяляцкім усе звярнулі ўвагу, як трымалася яго жонка! Як мела сілу волі ўсміхацца мужу ў час, калі нават калегі з праваабарончага цэнтру «Вясна» не маглі стрымаць слёзы.

***— Марына, Вы б ухвалілі, калі б Мікола напісаў прашэнне аб памілаванні, якога так дамагаецца ад яго Лукашэнка? Ці сапраўды яно нічога не значыць?***

— Гэтае прашэнне насамрэч многа значыць. І нават тыя, хто спрабуе пераканаць іншых, сябе, што з подлай уладай можна змагацца рознымі метадамі, усе ж разумеюць — нехта мусіць быць нязломным. Хаця б для таго, каб у гэтай улады не заставалася ніводнага маральнага шанцу. Мікола абраў для сябе гэтую цяжкую ношу. І не адзін ён! 20–25-гадовыя дзеці паводзяць сябе гэтак жа, бо разумеюць, што ёсць вышэйшыя мэты, чым проста адчуванне дома. Я ведаю, што Мікола будзе трымацца сваіх пазіцый, гэта для яго важна, а значыць — і для мяне.

***— Вы можаце назваць сябе шчаслівым чалавекам?***

— Магу! Я многа разоў задавала сабе гэтае пытанне і адказвала на яго станоўча. Калі б трэба было прайсці ўсё яшчэ раз, я б зноў падтрымала Міколу.

Пытаюся, які рэцэпт ідэальных адносінаў з такім моцным чалавекам, як Статкевіч? Марына смяецца: «Дык і я ж не слабая!». І працягвае думку: «Я ўжо адказала вам — заўсёды разумела, што іншага шчасця мне не дадзена. Але, безумоўна, бывае ўсякае, бывае што і іскры ляцяць ва ўсе бакі!» — Наталля Пінчук таксама смяецца і з хітрым позіркам ківае галавой.

Паразумеўшыся ў тэме ўзаемаадносінаў, Наталля Пінчук усё ж пагаджаецца адказаць на колькі пытанняў.

— Апошніх добрых навінаў ад Алеся няма. Папярэднія былі не лепшыя — ён атрымаў яшчэ два спагнанні ў дадатак да трох ранейшых. Нас пазбавілі перадач, сустрэчы, што мусіла быць у жніўні. Цяпер у графіку спатканняў магчымае толькі кароткатэрміновае ў снежні і доўгатэрміновае ў траўні наступнага года. Калі нічога новага нам не падгадаюць. Лісты даходзяць рэгулярна. Калі стала вядома пра новыя спагнанні, Алесь мне напісаў: «Ты толькі не ўпадзі ў чорную меланхолію». А пра сябе напісаў так: «Ты ж ведаеш, што ў мяне характар устойліва-аптымістычны». Дай Бог, каб ён трымаўся так і далей.

***— Што пагражала Алесю, было вядома загадзя, ці не гаварылі вы пра магчымасць з'ехаць з краіны?***

— Мы пагаварылі, ён распавёў, якія наступствы будуць. Здаецца, я нават і не пыталася пра яго рашэнне. Усё было зразумела. Мы занадта многа пражылі разам, каб разумець адзін аднаго без лішніх слоў.

Пра свае высновы ад непрыемнай ролі жонкі палітвязня Наталля гаварыць адмаўляецца:

— Ведаеце, пра гэта трэба расказваць, як усё скончыцца. Мы па жыцці ўсе прымхлівыя: баішся, што скажаш і сурочыш. У некаторых жыццёвых абставінах становішся прымхлівым, а Алесь і да гэтага быў такім. Я ж не выказваю спадзеваў, нават не думаю пра гэта. Самае правільнае — жыць з дня ў дзень, рабіць справу, бо толькі гэта дае нейкі вынік.

Наталля пачынае гаварыць пра салідарнасць з іншымі жонкамі палітвязняў:

— Калі мы разам, гэта дае магчымасць...

— Абаперція на плячо, — падказвае Марына.

— Нам нават не трэба весці размову пра нашу сітуацыю. Мы і так усё ведаем, разумеем. Марына ў нас — прыцягальны цэнтр. А да гэтага мы нават не былі знаёмымі. У мяне ўвогуле было вельмі мала блізкіх людзей. І вось такая новая сітуацыя.

— Яны нам зрабілі такі падарунак — мы сталі сябрамі, і гэта немалы падарунак!

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 27 ЖНІЎНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.10** Мультфільмы.
**14.25** Прэм'ера. «Любча. Восем дзён лета». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**16.15** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**21.00** Панарама.
**21.45** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Расія-Украіна). Закл. серыя.
**22.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Фільм-катастрофа «2012. Цунамі» (Паўднёвая Карэя).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Капітан Гардзееў». Шматсер. фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Паліцыянты і злодзеі».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Чыстая спроба».
**22.15** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Таццяна Тарасава: «У мяне не лядзянае сэрца».
**00.20** Тэорыя неверагоднасці. «Псіхалагічны тэрор».
**01.00** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Зорны рынг».
**15.15** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Бог смутку і радасці». Украіна.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.40** Бітва экстрасэнсаў.
**11.50** Камедыя «Трэст, які лопнуў» (СССР).
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.55** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**22.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**23.30** Футбол. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**00.25** Фантастычны баявік «Зорны шлях. Паўстанне» (ЗША).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Пакой смеху».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Салямі».
**21.25** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Яны ваявалі за Радзіму». Фільм пра фільм.



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі».
**11.10** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «Сярод бела дня».
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Галоўная дарога».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Залаты запас».
**21.15** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Прэм'ера. «Расія. Поўнае зацьменне».



**09.30** Матаспартыўны уікэнд.
**09.45** Вось дык так!!!
**10.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. ЗША - Германія.
**12.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. Італія - Нігерыя.
**13.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. Групавы этап. Германія - Кітай.
**15.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. ЗША - Германія.
**16.00** Снукер. Турнір ЕРТС. Германія. Фінал.
**17.45** Вось дык так!!!
**18.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 1.



**07.00** Размовы эксперта.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак.
**07.30** «Школа на санцапёку», серыял.
**08.25** «Мой родны горад», серыял.
**08.50** Басаножа па свеце.
**09.15** Дак. гадзіна: «Піянеры зменаў. Канада», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**10.10** Euromaxx.
**10.35** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**11.25** «Глядзі, Літва!», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**12.20** Форум (ток-шоў).
**13.05** Размовы эксперта.
**13.20** Кружэлка (музычная праграма).
**13.50** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 24 серыя.
**14.55** «Малая Масква», серыял: 3 серыя.
**15.40** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**17.00** Дак. гадзіна: «Піянеры зменаў. Канада», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 49 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басаножа па свеце.
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Варганы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.50** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**23.55** Аб'ектыў.
**00.20** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**01.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 28 ЖНІЎНЯ, АЎТОРАК



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**08.45** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.10** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Расія-Украіна). Закл. серыя.
**10.10** Арэна.
**10.40** Мультфільм «Вакацыі Баніфацыя».
**11.00** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Здароўе.
**16.15** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Камедыя «Аднойчы ў Версалі» (Францыя).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Капітан Гардзееў». Шматсер. фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсе. фільм «Чыстая спроба».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.30** «Увасікрэшаныя цені». 1-я серыя.
**00.35** «Пах».
**01.30** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Далёкія сваякі».
**08.55** Фільм «Бог смутку і радасці». Украіна.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**13.05** «Кінагісторыі».
**13.50** Фільм «13». ЗША, 2010 г.
**15.35** «Ваенная таямніца».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Верныя сябры». СССР, 1954 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойчая сіла 6». Серыял.
**00.15** «Механічны апельсін».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Футбол. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**10.00** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**11.05** Школа рамонту.
**12.10** Цела чалавека.
**12.50** «Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.40** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.55** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**23.35** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**00.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. Агляд дня.
**01.15** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Салямі».
**11.00** Весткі.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Салямі».
**21.25** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Ай эм Бонк. Наталля Бонк. Гісторыя аднаго падручніка».



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «Сярод бела дня».
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Выратавальнікі».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Залаты запас».
**21.15** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. «Расія. Поўнае зацьменне».



**04.00, 08.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 1.
**14.30** Аўтаспорт. World Endurance Championship.
**15.30** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно.
**16.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 9.
**17.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 10.
**18.45** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 2.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Глядзі, Літва!», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**08.30** «Час гонару», серыял: 49 серыя.
**09.20** Басаножа па свеце.
**09.45** Еўропа сёння.
**10.10** Размовы эксперта.
**10.25** Гісторыя – на вакацыі: «Варганы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**10.50** «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея «У Хэрач'яна»», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**11.20** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**13.25** Два на два (тэледыскусія).
**13.50** Дак. гадзіна: «Піянеры зменаў. Канада», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**14.45** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**15.30** Басаножа па свеце.
**15.55** Еўропа сёння.
**16.25** Размовы эксперта.
**16.40** Гісторыя – на вакацыі: «Варганы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**17.00** «Глядзі, Літва!», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 50 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар.
**19.25** Паляванне на дзівосы.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькі.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.40** Форум (ток-шоў).
**22.30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Зачасны падарунак», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**23.25** МакраФон: «Рок-карона: 1994–1996», архіўныя запісы: ч. 1.
**23.55** Аб'ектыў.
**00.25** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**01.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 29 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Каробка перадач.
**11.05** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**15.55** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**16.10** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША- Паўднёвая Карэя).
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Цыкл тэлеперадач "Дыялогі аб цывілізацыі».
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Крымінальная драма "Трынаццаць» (ЗША).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Аляксандр Барыкін. У палоне ўласнай славы».
**12.05** «Сэрца Мары». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Чыстая спроба».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.30** «Уваскрэшаныя цені». 2-я серыя.
**00.35** Асяроддзе пасялення.
**01.30** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінўшчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Верныя сябры». СССР, 1954 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**13.05** «Кінагісторыі: «Гардэмарыны, наперад!».
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінўшчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Квартэт для дваіх». Украіна.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Дабро пажаліцца».
**23.20** «Забойная сіла 6». Серыял.
**00.15** «Дзіўная справа».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Наперад у мінулае.
**09.35** Цела чалавека.
**10.10** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**11.20** Меладрама «Двое на выспе слёз».
**13.10** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**14.40** Еш і худзей.
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.55** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**23.40** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**00.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. Агляд дня.
**01.20** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Салямі».
**11.00** Весткі.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Салямі».
**21.25** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Скальпель для першых асоб. Таемная хірургія».



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «Сярод бела дня».
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Прафесія-рэпарцёр».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Залаты запас».
**21.15** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**22.15** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА 2012.
**00.10** «Увага: вышук!».



**04.00, 08.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 2.
**15.30** Веласпорт. Вуэльта. Этап 10.
**17.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 11.
**18.45** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 3.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** Форум (ток-шоу).
**08.30** «Час гонару», серыял: 50 серыя.
**09.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.30** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**09.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**10.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.55** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**11.15** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Заўчасны падарунак», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**12.10** Форум (ток-шоу).
**13.00** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**13.45** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.05** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**14.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.45** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**15.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**15.30** МакраФон: «Рок-карона: 1994–1996», архіўныя запісы: ч. 1.
**16.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Заўчасны падарунак», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 51 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Крыжы Беларусі», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял: 11 серыя.
**22.30** «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.40** Лета з дэтэктывам: «Д'яблавы хітрыкі», серыял: 2 серыя.
**00.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 30 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**10.10** Цыкл тэлеперадач «Дыялогі аб цывілізацыі».
**10.40** Дакументальны фільм «Знакі лёсу. Віктар Казько» («Беларусьфільм»).
**11.10** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Медычныя таямніцы.
**16.00** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**16.15** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША- Паўднёвая Карэя).
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Трылер «Яе сэрца» (ЗША-Вялікабрытанія).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Уладзімір Этуш. «Усё, што нажыта непасільнай працай».
**12.05** «Сэрца Мары». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Чыстая спроба».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.30** «Я шчаслівая!» Дак. фільм.
**00.05** «Развод. Я табе нічога не аддам…».
**01.00** Начныя навіны.

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінўшчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** Фільм «Квартэт для дваіх». Украіна.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**13.05** «Кінагісторыі».
**13.50** «Халасцякі». Серыял. Закл. серыя.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінўшчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Памнажаючы смутак». Серыял. Заключная серыя.
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Інфарматары».ЗША-Германія.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойная сіла 6». Серыял.
**00.15** «Яшчэ не вечар».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вышэй за дах.
**09.40** Еш і худзей.
**10.10** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**11.15** Страсці па культуры.
**12.00** Прэм'ера. Дакументальны фільм.
**12.35** Жансавет.
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**14.15** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**14.45** Еш і худзей.
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.55** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**22.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.00** Час футболу.
**23.45** Крымінальная драма «Забойства Джона Ленана» (Вялікабрытанія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Салямі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Салямі».
**21.25** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Цыліндры фараонаў. Апошняя таямніца».



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі...».
**11.10** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «Сярод бела дня».
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Прафесія-рэпарцёр».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Залаты запас».
**21.15** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. «Расія. Поўнае зацьменне».
**00.20** «У зоне адмысловай рызыкі».



**04.00, 08.00, 12.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 3.
**09.30** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно.
**10.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. 1/4 фіналу.
**13.30** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. 1/4 фіналу.
**15.30** Веласпорт. Вуэльта. Этап 11.
**17.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 12.
**18.45** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Лёсаванне.
**20.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 4.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 51 серыя.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Праект "Будучыня».
**10.30** «Крыжы Беларусі», рэпартаж, 2011 г.
**10.50** «Кароль-вінароб», серыял.
**11.35** «Гульня ў вайнушку», дак. фільм.
**12.20** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**13.05** Побач з намі.
**13.20** «Д'яблавы хітрыкі», серыял: 2 серыя.
**14.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.45** «Фядора, якая лечыць», рэпартаж.
**15.05** Праект «Будучыня».
**15.30** «Кароль-вінароб», серыял: 11 серыя.
**16.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.25** «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**17.10** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 52 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** «Аляксандр Вайтовіч», рэпартаж.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Левасуддзе», тэлесерыял: 4 серыя.
**22.30** «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** «Д'яблавы хітрыкі», серыял: 3 серыя.
**00.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 31 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Тэлефільм АТН «У барацьбе з разумным сэнсам».
**11.10** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш.» (Украіна).
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Каробка перадач.
**18.45, 01.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш» (Украіна). 8-я серыя, заключная.
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм цыклу «Лёс гігантаў».
**22.10** «Не толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**23.10** Крымінальны баявік «Чорны дождж» (ЗША).
**01.45** Дзень спорту.



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Выкрадзенае жыццё».
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.05** Прэм'ера. Фільм «Рамавы дзённік».
**01.15** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Інфарматары». ЗША-Германія, 2008 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Памнажаючы смутак». Серыял. Заключная серыя.
**13.05** «Кінагісторыі».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Рускі сродак». Серыял.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дэтэктыўныя гісторыі».
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Брама Афіны». ЗША-Іспанія, 2009 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Расійская покерная серыя».
**00.40** Прэм'ера! «Прыгоды сэксу ў ХХ стагоддзі».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.50** Еш і худзей.
**11.20** Школа рамонту.
**12.30** Страсці па культуры.
**13.15** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**14.20** «Халі-галі». Скет-шоў.
**14.45** Фантастычная камедыя «Як Майк» (ЗША).
**16.40** Жансавет.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Бітва экстрасэнсаў.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Суперкубак УЕФА. Чэлсі – Атлетыка. Прамая трансляцыя.
**23.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.40** Камедыя «Марго на вяселлі» (ЗША).




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Салямі».
**11.00** Весткі.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.55** «Вымяральнік розуму. IQ».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.05** Фільм «Арыфметыка ганебнасці» (2011 г.).
**23.45** Навіны - Беларусь.
**23.55** Фільм «Калі б я цябе кахаў» (2010 г.).



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Сярод бела дня».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Прафесія-рэпарцёр».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны фільм «Кома».
**21.20** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**22.20** Фільм «Пятніцкі».
**00.15** Серыял «Неба ў агні».




**04.00, 08.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 4.
**10.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. 1/4 фіналу.
**12.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 4.
**13.30** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. 1/4 фіналу.
**15.30** Веласпорт. World Ports Classic.
**17.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 13.
**18.45** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 5.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.35** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**08.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.35** «Час гонару», серыял: 52 серыя.
**09.20** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**09.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Аляксандр Вайтовіч», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**10.45** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**11.00** «Левасуддзе», тэлесерыял: 4 серыя.
**11.50** «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**12.45** МакраФон: «Рок-карона–2008», выбранае: ч. 2.
**13.20** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**14.05** Лета з дэтэктывам: «Д'яблавы хітрыкі», серыял: 2 серыя.
**15.10** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.25** «Аляксандр Вайтовіч», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**16.40** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**17.00** «Бульбаны», мультсерыял.
**17.10** «Кароль-вінароб», серыял: 11 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 13 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Сабачая будка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.50** Гарадзенская вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Няскораная», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 2.
**22.00** «Каралева аблокаў», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.20** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.40** Аб'ектыў.
**00.05** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 12 серыя.
**00.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 1 ВЕРАСНЯ, СУБОТА



**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна). Заключныя серыі.
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.15** Мультфільм «Чабурашка ідзе ў школу».
**12.25** Музычная камедыя «Вясёлыя рабяты» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**19.10** Меладрама «Лабірынты кахання» (Украіна-Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.50** Дзень спорту.
**23.00** Прыгодніцкая камедыя «Кракадзіл Дандзі-2» (ЗША-Аўстралія).
**01.00** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна). Заключныя серыі.



**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.20** «Здароўе».
**10.20** «Смак».
**11.05** Фільм «Горад майстроў».
**12.45** Прэм'ера. «1812. Нашэсце».
**13.45** Камедыя «Паласаты рэйс».
**15.20** Камедыя «Вялікая змена».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікая змена». Працяг.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Фільм «Калі толькі».
**22.50** Прэм'ера. «Сёння ўвечар».
**00.30** «Зоркі дыскатэк 90-х».



**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.30** «Салдаты-14». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Брама Афіны». ЗША-Іспанія, 2009 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** Фільм «Апякун». СССР, 1970 г.
**14.55** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.25** Фільм «Жаночая інтуіцыя». Украіна, 2003 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «PRADA і пачуццi». ЗША-Мексіка, 2011 г.



**07.30** «Расклад на паслязаўтра» («Беларусьфільм»).
**09.00** Фантастычная камедыя «Як Майк» (ЗША).
**10.55** Тэлебарометр.
**11.00** Школа рамонту.
**12.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.40** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.40** Наперад у мінулае.
**14.15** Беларуская кухня.
**14.50** Фільм «Лясная брацва» (ЗША).
**16.40** Музычная камедыя «Школа рокуа» (ЗША-Германія).
**18.50** Ваша лато.
**19.35** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.15** Дэтэктыў «Падазроныя асобы» (ЗША).
**00.10** Шоў «Суперінтуіцыя».




**07.00** Мультфільм.
**07.10** «Звычайны канцэрт».
**07.40** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**09.05** Фільм «Дзе вы, рыцары?».
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Танцуючая планета. Вена».
**11.55** Фільм «Арыфметыка ганебнасці» (2011 г.).
**13.30** «У свеце жывёл».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Шукальнікі».
**15.15** Фэст дзіцячай мастацкай гімнастыкі «Аліна».
**16.40** Камедыя «Бацькі і дзяды».
**18.10** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Не было бы шчасця» (2012 г.).
**00.15** «Дзяўчаты».



**06.25** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.25** Прэм'ера. Серыял «Адвакат».
**15.05** «Уласны гонар».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі…».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** «Выратавальнікі».
**18.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.25** «Прафесія-рэпарцёр».
**19.55** «Праграма Максімум».
**20.55** «Рускія сенсацыі».
**21.45** «Ты не паверыш!».
**22.45** «Прамень Святла».
**23.15** Прэм'ера. Дэтэктыў з цыклу «Важняк».
**00.45** Серыял «Неба ў агні».




**04.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 5.
**08.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 5.
**11.00** Аўтаспорт. Ралі IRC. Чэхія. Дзень 1.
**11.55** Бізнэс клас. Часопіс.
**12.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 5.
**14.00** Аўтаспорт. Ралі IRC. Чэхія. Дзень 1.
**15.00** Веласпорт. World Ports Classic.
**17.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 14.
**18.45** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 6.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю».
**07.55** «Школа на сансапёку», серыял: 4 серыя.
**08.20** «Мой родны горад», серыял: 25 серыя.
**08.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.00** Размовы эксперта.
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**10.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 13 серыя.
**11.15** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**12.00** Англійская для дзяцей.
**12.05** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю».
**12.30** «Школа на санцапёку», серыял: 4 серыя.
**13.00** Беларускія лёсы: «Сабачая будка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**13.25** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 12 серыя.
**14.10** Гісторыя – на вакацыі: «Няскораная», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 2.
**14.45** «Каралева аблокаў», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**16.00** «Генерал Клеэбэрг і яго жаўнеры», дакументальны фільм, 2007 г., Польшча.
**16.50** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 5 і 6 серыі.
**17.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Левасуддзе», тэлесерыял: 4 серыя.
**18.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.45** Суботні сеанс: «Заўтра пойдзем у кіно», мастацкі фільм, 2007 г., Польшча.
**23.00** «Забытая флатылія», дакументальны фільм, 2005 г., Польшча.
**00.00** Аб'ектыў.
**00.15** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 13 серыя.
**01.00** «Бульбаны», мультсерыял.

## 2 верасня, нядзеля



**06.55** Існасць.
**07.25** Музычная камедыя «Вясёлыя рабяты» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны серыял «Прыгажунчык» (Расія). 1-я серыя.
**10.55** Мультфільмы.
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.10** Час Саюза.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі фільм «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.20** Мультфільм «Умка».
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** «Славянскі базар-2012».
**19.00** Меладрама «Восеньскі вальс» (Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Тэлефільм АТН цыклу «Журналісцкае расследаванне».
**22.30** Крымінальная камедыя «Прафесар у законе» (Украіна).
**00.35** Камедыйны серыял «Прыгажунчык» (Расія). 1-я серыя.



**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Новы «Ералаш».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Камедыя «Страпуха».
**12.05** Прэм'ера. «1812. Супрацьстаянне».
**13.05** Фільм «Вайна і мір». 1-я і 2-я серыі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вайна і мір». Працяг.
**17.55** Фільм «Непераможны».
**20.00** Контуры.
**21.05** Музычны фэст «КіВіН».
**00.10** Камедыя «Грынберг».



**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Жыць будзеце».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** Фільм «PRADA і пачуцці». ЗША-Мексіка, 2011 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** Фільм «Небяспечна для жыцця». СССР, 1985 г.




**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.15** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Усё жыццё наперадзе». Італія, 2008 г.
**22.55** «Пякельная кухня».
**00.15** Фільм «Летуценнікі». Францыя-Вялікабрытанія-Італія, 2003 г.



**08.05** Музычны фільм «Ясь і Яніна».
**09.10** Камедыя «Рагаты бастыён».
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.40** Фільм «Мадагаскар» (ЗША).
**15.25** Футбол. Прэм'ер-ліга. Ліверпуль – Арсенал. Прамая трансляцыя.
**17.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**18.00** Суперлато.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Спорт-кадр.
**22.25** Прыгодніцкая камедыя «Апошні адпачынак» (ЗША).
**00.25** Баскетбол. Эўра-2013. Адборачны раўнд. Мужчыны. Беларусь - Турцыя.
**02.05** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** «Ха». Маленькія камедыі.
**07.20** Фільм «Не было бы шчасця» (2012 г.).
**11.00** Весткі.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама».
**12.30** Фільм «Прапаноўваю руку і сэрца».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Вайна і мір Аляксандра Першага. Напалеон супраць Расіі».
**15.35** «Гарадок». Дайджэст.
**16.25** Фільм «Жыве такі хлопец».
**18.15** «Крывое люстэрка».
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Вяртанне дадому» (2011 г.).



**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая предача».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.05** «Дачны адказ».
**12.10** «Развод па-руску».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Адвакат».
**15.05** «Уласны гонар».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі…».
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.05** «Бывае ж такое!».
**18.30** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** Сёння.
**19.25** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**21.40** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.40** Прэм'ера. Дэтэктыў з цыклу «Важняк».
**00.15** Серыял «Неба ў агні».



**04.00, 08.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 6.
**10.00** Аўтаспорт. Серыя GP3. Спа (Бельгія). Заезд 1.
**10.30** Аўтаспорт. Серыя GP3. Спа (Бельгія). Заезд 2.
**11.00** Аўтаспорт. Ралі IRC. Чэхія. Дзень 2.
**12.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 14.
**12.45** Аўтаспорт. Суперкубак Паршэ. Спа (Бельгія).
**13.30** Аўтаспорт. Ралі IRC. Чэхія. Дзень 2.
**14.00** Аўтаспорт. Ралі IRC. Чэхія. Дзень 2.
**15.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 6.
**16.00** Веласпорт. Вуэльта. Этап 15.
**18.45** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат ЗША. Дзень 7.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Английская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**07.50** «Школа на санцапёку», серыял: 5 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 26 серыя.
**08.40** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.10** «Левасуддзе», тэлесерыял: 4 серыя.
**09.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 5 і 6 серыя.
**11.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.50** Англійская для дзяцей.
**11.55** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**12.25** «Школа на санцапёку», серыял: 5 серыя.
**12.50** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 13 серыя.
**13.40** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**14.10** «Хай будзе свята», дак. фільм, 2008 г., Сербія–Чарнагорыя.
**14.35** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**14.50** «Заўтра пойдзем у кіно», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**16.35** Форум (ток-шоў).
**17.20** «Незалежныя», дак. фільм, 2006 г., Польшча.
**18.15** «Цуд на Пурым», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**19.10** Басанож па свецe (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.00** Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. Аргентына», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.20** Фільматэка майстроў: «Кэндзі», маст. фільм, 2006 г., Аўстралія.
**23.10** Лета з дэтэктывам: «Дэкалог, пяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**00.10** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня
Всего

Кассир

МЕРКАВАННЕ

# МАРЫ «ГРУЗІНСКАЙ МАРЫ»

**У сувязі з прызначанымі на 1 кастрычніка парламенцкімі выбарамі ў Грузіі абвастрылася палітычная сітуацыя. Пра магчымыя сцэнары падзей журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае Георгій Парэсішвілі, адзін з моладзевых лідараў кааліцыі «Грузінская мара» — галоўнай апазіцыйнай сілы рэжыму Міхаіла Саакашвілі.**



***— Чаму апазіцыя надае важнае месца гэтым выбарам?***

— Іх ход і вынікі могуць паўплываць на планы Саакашвілі далей застацца пры ўладзе. Як вядома, у наступным годзе ён павінен пакінуць пасаду прэзідэнта — па канстытуцыі, ён не можа балатавацца на наступны тэрмін. Таму ў адміністрацыі Саакашвілі працуюць над тым, як імпартаваць на грузінскую глебу пуцінскі прыём — паставіць на адну прэзідэнцкую кадэнцыю нейкага чалавека, каб пасля Саакашвілі зноў атрымаў магчымасць балатавацца на пасаду прэзідэнта. Ужо абмяркоўваюцца кандыдатуры на ролю грузінскага Мядзведзева — быццам ім збіраюцца прызначыць сталічнага мэра або цяперашняга прэм'ер-міністра. Правесці такое можна, калі мець кантроль над парламентам.

***— «Грузінская мара» паўстала практычна ў гэтым годзе як праект алігарха Барыса Іванішвілі. Што прымусіла яго пайсці ў палітыку?***

— Гэта доўгая гісторыя. Вядома, што Іванішвілі раней фінансаваў Саакашвілі, прычым не толькі апарат яго партыі «Нацыянальны рух», аднак нават дзяржаўныя праграмы. Напрыклад, ён быў спонсарам рэформы паліцыі. Аднак два гады таму адносіны паміж уладай і бізнэсоўцам сталі пагаршацца. Іванішвілі перанакіраваў грошы на падтрымку культуры. Ён шмат уклаў у рэканструкцыю Тбілісі. Асноўны пералом у адносінах адбыўся пасля 26 мая мінулага года, калі паліцыя разагнала з выкарыстаннем гумавых куляў лагер апазіцыі ў сталіцы. Тады 4 чалавека было забіта, а лёс яшчэ 5 дасюль не вядомы. Гэтыя падзеі прымусілі Іванішвілі, па яго словах, заявіць пра сыход у палітычную апазіцыю.

***— З якіх пазіцый Іванішвілі крытыкуе прэзідэнта?***

— Асноўныя накірункі крытыкі — аўтарытарызм, знешняя палітыка і эканоміка. Найбольш гарачая тэма — аўтарытарная тэндэнцыя ва ўладзе. За часы Саакашвілі Грузія ператварылася ў паліцэйскую дзяржаву. Ужо нікога не здзіўляюць выпадкі, калі людзям, якія крытыкуюць рэжым, падкідваюць зброю або наркотыкі і пасля адпраўляюць за краты. Калі 200 асуджаных па такіх справах ужо прызнаныя замежнымі праваабаронцамі вязнямі сумлення. З 2003 года паліцэйскія застрэлілі на вуліцах каля 30 чалавек. Толькі адзін раз удалося пасадзіць забойцу ў турму, і тое толькі на адзін год. Яшчэ горшае становішча ў турмах. За тры апошнія гады там было забіта каля ста чалавек.

***— Што кажа Барыс Іванішвілі пра руска-грузінскую вайну 2008 года?***

— Апазіцыя лічыць, што вайна была правакацыяй з боку Тбілісі. Дарэчы, з гэтым пагадзілася і незалежная міжнародная камісія, якая праводзіла следства. Саакашвілі атрымаў вялікія бонусы з таго канфлікту: у вачах людзей стаў сімвалам абароны суверэнітэту, плюс у краіну прыйшлі ад Захаду вялікія сродкі на рэканструкцыю, што палепшыла эканамічны стан. Таксама Іванішвілі гатовы, у адрозненне ад Саакашвілі, разглядаць магчымасць надання Абхазіі і Паўднёвай Асеціі статусу аўтаноміі ў складзе Грузіі. Дарэчы, менавіта дзякуючы той вайне гэтыя тэрыторыі аказаліся прывязаныя да Масквы, пра што Пуцін даўно марыў. Таму сярод апазіцыі папулярная версія, што Саакашвілі і Пуцін дзейнічалі ў 2008 годзе ў рамках змовы — гэта, паўтару, выключна версія... Аднак на карысць яе кажа і тое, што амаль увесь буйны бізнэс у Грузіі належыць рускаму капіталу.

***— Затое ўсім вядома, што Саакашвілі сябруе з Лукашэнкам. Чым можна растлумачыць узаемныя сімпатыі Мінску і Тбілісі?***

— Напэўна, яны блізкія адзін аднаму як аўтарытарныя палітыкі. Магчыма, ёсць інтарэсы бізнэсу. У любым выпадку, гэта вельмі цеснае супрацоўніцтва. Я, напрыклад, не вельмі веру ў версію пра крымінальны след нядаўняга забойства ў Мінску грузінскага прадпрымальніка Бонда Шалікіані. Шалікіані збег з Грузіі пасля прыходу да ўлады Саакашвілі, і не выключана, што быў спонсарам супраціву. Я быў у Беларусі і магу сказаць, што ў чымсьці яна вельмі падобная на Грузію — без спецслужбаў тут мыш не пікне. А тут вам забойства вядомага бізнэсоўца. Мне падаецца, што тут нешта не тое.

***— Ці паўплываў цяперашні эканамічны крызіс на стан грузінскай эканомікі?***

— Не моцна, паколькі эканомікі ў нас даўно няма. Эканамічная інфраструктура існуе выключна ў Тбілісі і ў Батумі — курортнай зоне і ў порце. Нават у Кутаісі — другім горадзе краіны — камунальнымі паслугамі карыстаюцца ў поўным аб'ёме жыхары двухтрох цэнтральных вуліц. Асноўны фактар выжывання — грашовыя пераводы родных, якія падаліся гастарбайтэрамі ў Еўропу або ў Турцыю. Без гэтага цяжка. Самі лічыце: каб жыць зараз у Грузіі, у сярэднім патрэбна 350 долараў на месяц, а нармальны заробак нават у Тбілісі менш за 250.

***— Вы кажаце ледзь не пра сістэмны крызіс, хаця апошнія прадзяржаўныя СМІ Грузіі сцвярджаюць, што прапрэзідэнцкая партыя «Народны рух» карыстаецца падтрымкай 65 працэнтаў электарату. Апазіцыя, быццам, на выбарах можа разлічваць на трэцюю частку дэпутацкага корпусу.***

— Ніхто не сумняваецца, што на выбарах будуць фальсіфікацыі. Дарэчы, першы раз такая практыка пачалася ў нас пры Шэварнадзэ, а за патрэбную ўладзе «лічбу» адказваў чалавек, які зараз з'яўляецца адным з лідараў «нацыяналаў». Як і паўсюль у СНД, будуць заганяць галасаваць бюджэтнікаў. Як правіла, на працы ад іх патрабуюць пасля выбараў прынесці зробленыя ў кабінцы здымак выбарчага бюлетэня з перакрэсленай лічбай пяць (выбарчы нумар «Народнага руху»). Не прынясеш — адразу выставяць на вуліцу. Акрамя таго, паменшаць прадстаўніцтва апазіцыі за кошт падстаўной апазіцыі — партыі хрысціянскіх дэмакратаў, якой збіраюцца намаляваць каля 10 працэнтаў.

***— Вядома, што апазіцыя — гэта заўсёды своеасаблівы клуб асобаў з вялікімі амбіцыямі. Ці пагадзіліся старыя правадыры апазіцыі перадаць лідарства?***

— Так. Яны зрабілі мудры крок і адмовіліся на гэты раз балатавацца. Напрыклад, да праекту падтрымкі Іванішвілі заклікала Ніно Бурджанадзэ. Увогуле, шмат хто з вядомых асобаў у Грузіі падтрымаў «Грузінскую мару». Хаця б той жа Эдуард Шэварнадзэ.

***— Як людзі ставяцца да яго і да папярэдняга прэзідэнта Звіяда Гамсахурдыя?***

— Шэварнадзэ не любяць. Шмат хто лічыць, што менавіта ён даў Саакашвілі, які быў у яго камандзе, пропуск ва ўладу. Праўда, зараз людзі згадваюць часы Шэварнадзэ з настальгіяй. Тады таксама была карупцыя, аднак хоць на вуліцах не забівалі. Гамсахурдыя больш любімы сярод грузін. Шмат хто, у тым ліку яго праціўнікі, лічаць, што путч 1991 года супраць Гамсахурдыя заклаў падмурак грамадзянскай канфрантацыі ў краіне, якая цягнецца дасюль

***— Што будзе ў Тбілісі вечарам 1 кастрычніка?***

—Тое, што выбары фальсіфікуюць, зразумела. Афіцыйна, паводле ЦВК, пераможа «Народны рух». Мы ў сваю чаргу чакаем, што пачнуцца вялікія мітынгі. Паводле сацыялагічных апытанняў, толькі ў Тбілісі да 200 тысяч чалавек гатовыя пратэставаць у дзень выбараў супраць Саакашвілі. Усе разумеюць, што іншага варыянта, як грамадзянская рэвалюцыя, у нас няма.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Пра Пятра Пракаповіча нельга сказаць, што ён перакананы рынычнік, аднак у перыяд яго працы кіраўніком Нацбанка гэта структура была найбольш рынкавай. Прыватызацыя ў банкаўскай сферы таксама ішла найбольш актыўна. Палітыка галоўнага банка краіны была сістэмнай і паслядоўнай, наколькі гэта было магчыма ў рамках той эканамічнай мадэлі, якая ўсё ж ствралася ў Адміністрацыі прэзідэнта. Прычынай адстаўкі Пракаповіча стала дэвальвацыя ў мінулым годзе. Незалежныя эксперты і грамадскасць вінавацяць у гэтым кіраўніка Нацбанка. Аднак крыніцы, блізкія да сферы прыняцця рашэнняў у Беларусі, сцвярджаюць, што адзінае, што мог зрабіць у той сітуацыі Пётр Пракаповіч, — гэта сысці з пасады да дэвальвацыі, але гэта не дапамагло б пазбегнуць яе. Справа ў тым, што абясцэньванне нацыянальнай валюты — гэта следства няправільнай эканамічнай, а не манетарнай палітыкі. Падвышэнне зарплаты да 500 долараў трэба было Лукашэнку, каб ісці на выбары, а зусім не Нацбанку. Пракаповічу папросту выкруцілі рукі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Творчы прадэмакратычны пратэст, падчас якога плюшавыя мішкі спускаліся на парашутах у небе над Беларуссю, не змякчыў пазіцый прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, аднак ён прыцягнуў да аўтарытарнага рэжыму непажаданую ўвагу з боку міжнароднай супольнасці.

**NBC (ЗША)**

Палова грамадзян Беларусі намерваецца пакінуць краіну, «дзе кіруе Лукашэнка», сацыёлагі кажуць, што адбіліся вострыя сацыяльны крызіс і значнае пагаршэнне ўзроўню жыцця. Нармальныя зарплаты, свабода слова і думак — пакуль гэтага не будзе, з Беларусі працягнуць з'язджаць. У той жа час варта адзначыць, што ўлады не змогуць забяспечыць насельніцтву еўрапейскі ўзровень заработнай платы, у такой сітуацыі ім папросту давядзецца змірыцца з маштабнай эміграцыяй, ну ці звярнуцца да практыкі «жалезнай заслоны».

**«Financial World» (Расія)**

Масква і Мінск цяпер перажываюць перыяд, напэўна, паказальнага паразумення. Менавіта пра гэта павінны былі сведчыць шырокая ўсмешка Лукашэнкі, якой ён сустракаў Лаўрова, і — для тых, каму недастаткова выразу твару, — словы. Беларускі прэзідэнт назваў адносіны ўзорнымі. Па яго словах, напружанасці няма ні па адным пытанні. І хоць Лукашэнка заўсёды не шкадаваў кампліментаў, першым чынам аддаючы належнае ўласным унёскам у добрасуседства, якія, дарэчы, часцяком толькі кампліментамі і абмяжоўваліся. Але цяпер, падобна, яго пафас насамрэч нагадвае ўдзячнасць. Менавіта падтрымка Расіі — і фінансавая, і палітычная — дазваляе яму думаць, што ён сам здольны супрацьстаяць усяму.

**«Голос России» (Расія)**

Апошняе абвастрэнне адносін паміж Мінскам і Стакгольмам было добра абдуманым PR-крокам беларускіх улад, накіраваным, у першую чаргу, на аднаўленне іх іміджу на ўнутрыпалітычнай арэне. У каментары карэспандэнту Рускай службы «Голасу Амерыкі» Гусеў сказаў, што Лукашэнка, на яго погляд, адчуў сур'ёзны стрэс пасля высадкі плюшавых мядзведзяў у Мінску і «прарыву» проціпаветранай абароны Беларусі лёгкаматорным самалётам. Зараз, па меркаванні палітолага, беларускі лідар усяляк спрабуе прадэманстраваць, што ён кантралюе сітуацыю ў сваёй краіне.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КІТАЙ. ПЕРШЫ ТЫБЕЦКІ АЛІМПІЙСКІ МЕДАЛЬ

Грамада тыбетцаў па ўсім свеце святкуе гістарычную падзею — упершыню спартсмен з Тыбету стаў прызёрам алімпіяды. Гаворка пра Цэян Шэньцзэ, якая 11 жніўня ў складзе зборнай Кітая аказалася трэцяй у спартовай хадзьбе на 20 кіламетраў. Цэян Шэньцзэ, між тым, не кітаянка, а этнічная тыбетка. Яна паходзіць з адной з мясцовасцяў, якая належыць да гістарычных рэгіёнаў Тыбету. Сама спартсменка сваю прыналежнасць да тыбетцаў не вельмі афішуе з вядомых прычын — Пекін змагаецца з усімі праявамі тыбецкага сепаратызму. Тым больш, што на стадыёне падчас яе забегу можна было пабачыць нацыянальныя сцягі Тыбету, забароненыя ў КНР. Аднак дыяспару, якая змагаецца за незалежнасць радзімы, такая акалічнасць, як апалітычнасць спартсменкі, не хвалюе. Эмігранты так бурна святкуюць падзею, што на радасці нават склалі паэму ў гонар Шэньцзэ. Дарэчы, Цэян Шэньцзэ — не толькі першы тыбецкі алімпійскі прызёр, а ўвогуле адзіны выхадзец з Тыбету ў гісторыі, які прыняў удзел у алімпіядах.

**Паводле французскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. 20 ГАДОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЛЮЦЕ

На мінулым тыдні Азербайджан адзначыў 20-годдзе сваёй нацыянальнай валюты. 15 жніўня 1992 года, пасля аднаўлення сваёй незалежнасці, краіна выпусціла манаты — з'явіліся купюры ў 1,10 і 250 манатаў. З нагоды юбілею ўлады арганізавалі спецыяльнае свята. Самае цікавае, аднак, не тое, што манат — дастаткова слабая валюта. У 2006 годзе ў краіне адбылася дэнамінацыя, калі старыя грошы памянялі на новыя з разліку 5 тысяч старых манатаў на адзін новы. Проста падчас святкаванняў афіцыёз ні разу не згадаў, што першая азербайджанская валюта з'явілася ў краіне дзякуючы прэзідэнту-нацыяналісту Абульфазу Эльчыбею — апаненту Гейдара Аліева, сын якога цяпер кіруе Азербайджанам. Праўда, у краіне даўно ўжо не прынята звязваць любыя асноватворныя дзяржаўныя акты з імёнамі асобаў, якія ўзначальвалі краіну да прыходу да ўлады Гейдара Аліева. Дададзім таксама, што з прычыны гадавіны з'яўлення манатаў азербайджанскі Нацбанк вырашыў палепшыць іх дызайн.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ФІДЭЛЬ НЕ ДАЧАКАЎСЯ ВІНШАВАННЯ

Упершыню ў сваёй гісторыі нямецкая партыя Левыя — нашчадак афіцыйнай партыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі — не павіншавала Фідэля Кастра, лідара кубінскай рэвалюцыі, з днём нараджэння. На мінулым тыдні Фідэлю споўнілася 86 гадоў, аднак віншавальнай паштоўкі з Берліну ён так і не дачакаўся. Сітуацыю растлумачыў Бернд Рыксінгер, адзін з лідараў левых. Па яго словах, партыя не жадае паўтараць гісторыю мінулага года, калі ад яе імя ў Гавану даслалі віншаванне, якое выклікала хвалю абурэння ў нямецкім грамадстве. Справа ў тым, што ў тэксце віншавання адзначалася, што пад кіраўніцтвам Фідэля Куба дабілася «фантастычных сацыяльных дасягненняў». Шмат хто, у тым ліку нямецкія левыя, лічаць, што карткавую сістэму на прадукты харчавання, якая дзейнічае на Кубе, нельга лічыць значным сацыяльным дасягненнем, не кажучы пра рэгулярныя парушэнні грамадзянскіх правоў. У выніку тая паштоўка ледзь не прывяла да расколу партыі. У гэтым годзе Левыя вырашылі, як кажуць, не рызыкаваць.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. ПУЦІН ПЕРАМОГ ЗОМБІ



Парад зомбі ў Ніжнім Ноўгарадзе, прызначаны на 26 жніўня, забаронены. Так вырашыла гарадская адміністрацыя. Зомбі-культура — гэта новая забаўка расійскай моладзі. Першы касцюмаваны парад вампіраў, ваўкалакаў і ім падобных пачвараў у краіне прайшоў у 2009 годзе на Арбаце ў Маскве. А год таму зомбі ў колькасці 300 чалавек упершыню масава выйшлі на вуліцу ў Ніжнім Ноўгарадзе. Цяпер такое не паўтарыцца: гарадская адміністрацыя не толькі марш забараніла, аднак на ўсякі выпадак нават нагадала «вампірам», што ў выпадку правядзення несанкцыянаванай акцыі іх чакае вялікі штраф. На думку прэсы, прычына ў тым, што вампіраў западозрылі ў нелюбві да Пуціна. Як вядома, пасля прыняцця ў чэрвені ў Расіі новай больш жорсткай рэдакцыі закону аб публічных сходах, апазіцыя завваліла органы заявамі на розныя мерапрыемствы кшталту паходу ў краму за хлебам або выгулу сабакі (гэтыя дзеянні, адпаведна новаму закону, калі пастарацца, таксама можна разглядаць як публічныя акцыі). Магчыма, у Ніжнім Ноўгарадзе палічылі, што дысідэнты на гэты раз вырашылі пераапрануцца ў вампіраў, і на ўсякі выпадак шэсце нячыстай сілы таксама паставілі па-за законам.

**Паводле расійскай прэсы**

ЮБІЛЕЙ

# ПЕСНЯ НЕ ЎСІХ НЕМЦАЎ

**Алег НОВІКАЎ**

**Нацыянальнаму гімну Германіі споўнілася 90 гадоў. І толькі цяпер немцы ўзгадалі, што іх гімн не легітымны.**




11 жніўня 1922 года прэзідэнт Фрыдрых Эберт падпісаў указ, паводле якога музычны твор «Песня немцаў» («Deutschlandlied») набывала статус дзяржаўнага гімна. З таго часу песня ў розных варыянтах заставалася гімнам Германіі.

Аднак зараз высвятляецца, што твор Хофмана фон Фаллерслебенса на музыку Ёзефа Гайдна так і не прайшоў працэдуру дэмакратычнай легітымізацыі. Парламент за яго не галасаваў. Для праціўнікаў «Deutschlandlied» гэта салідны аргумент, каб, як мінімум, патрабаваць дэбатаў наконт гімна.

На гэта аматары «Песні немцаў» просяць узгадаць час, калі было прынята рашэнне пра новы гімн. Пра працэдуры легітымізацыі інстытутаў у створнай у 1919 годзе Веймарскай рэспубліцы тады не надта думалі. У Германіі ўздымала галаву правая рэакцыя. У 1920 годзе путчысты генерала Капа ледзь не зрынулі рэспубліканскі лад. Каб як мага хутчэй разарваць з мінулым, рэспубліканскі ўрад імкліва ствараў пакет сімвалаў новай дзяржавы. Тое ж тычылася і дзяржаўных сімвалаў. У пошуках варыянту гімна Фрыдрых Эберт спыніўся на творы «Песня немцаў». Выбар на карысць гэтай мелодыі быў тонкім палітычным разлікам.

Песня, напісаная ў 1841-м, была вельмі папулярнай у розных кутках раздробленай Германіі. Пасля стварэння ў 1871 годзе Германскай імперыі ў якасці імператарскага гімна стаў выкарыстоўвацца гімн караля Прусіі «Heil dir im Siegerkranz». Аднак у 1890 годзе «Deutschlandlied» упершыню прагучала ў прысутнасці кайзера, пасля чаго яе сталі выконваць на ўсіх афіцыйных мерапрыемствах. Падчас вайны песня набыла новую афарбоўку. Яна стала сімвалам нямецкай арміі. Быў распаўсюджаны міф, што жаўнеры ідуць у атаку на траншэі Антанты і спяваюць: «Германія, Германія. Вышэй за ўсё», — такімі словамі пачынаецца першы куплет песні.

Эберт хацеў выкарыстаць у якасці піяру Веймара папулярную мелодыю. У гістарычнай перспектыве, як бачым, ідэя сварыць мяккі нямецкі нацыяналізм аказалася правальнай. Веймарская дэмакратыя дапамагла рэакцыянерам вярнуцца да ўлады і развязаць новую вайну. Памылка была відавочная ўжо ў 1922 годзе. Выданне «Vossische Zeitung», згадваючы пра тое, што ў час путчу Капа «Deutschlandlied» была песняй путчыстаў, адзначала: «Наданне гэтай песні статусу дзяржаўнага гімна ўзмацніла правыя сілы». Орган сацыял-дэмакратаў «Vorwarts» у тым жа 1922-м прагназаваў, што «дэмакраты і сацыялісты ніколі не змогуць адаптавацца да «Deutschlandlied», паколькі гэта песня цалкам скампраметаваная».

Таму не дзіўна, што, крытыкуючы інстытуты Веймара, Гітлер ніколі не чапаў афіцыйны гімн рэспублікі. Пасля прыходу нацыстаў гімн пакінулі. Хаця трошкі падкарэктавалі. Выконваўся толькі першы куплет песні пра тое, што «Германія вышэй за ўсё». Пасля трэба было спяваць нацысцкі партыйны гімн «Хорст Весель». Сама песня Хофмана фон Фаллерслебенса стала нейкім саўндтрэкам да нацысцкай праграмы пра неабходнасць падпарадкаваць увесь свет. У тым, што гімн пачынаецца са згаданай фразы, прапагандысты Гебельса бачылі нейкі сакральны мэсідж, хаця гісторыкі вызнаюць, што сам аўтар песні быў далёкі ад дактрыны сусветнага нямецкага дамінавання.

Пасля капітуляцыі Германіі і пачатку дзяржаўнага будаўніцтва ГДР і ФРГ тэма гімна зноў стала актуальнай. На Усходзе ўсё было проста. Твор Хофмана быў асуджаны камуністамі як адзін з элементаў ідэалогіі нямецкага агрэсіўнага нацыяналізму, што, дарэчы, недалёка ад праўды. У песні згадваюцца прыродныя межы Германіі, якія абсалютна не адпавядаюць цяперашнім дзяржаўным межам. Так, па Хофману, усходняя мяжа Германіі праходзіць па Нёману.

Дзяржаўнай мелодыяй заснаванай у 1949 годзе ГДР была песня «Адроджаная з руінаў». Музыку напісаў Ханс Эйслер, а тэкст — Ёганес Бехер. Праўда, у выніку песня аказалася крамольнай. З 1970 па 1989 год гімн выконваўся без слоў, паколькі арыгінальны тэкст утрымліваў згадванні пра «адзіную Германію», заклікі да стварэння якой лічыліся ў ГДР варожай прапагандай.

На Захадзе, дзе стваралася ФРГ, варыянт вяртання да «Deutschlandlied» спачатку таксама не разглядаўся. Была нават думка абвясціць конкурс. Аднак у «Песні немцаў» знайшоўся моцны лабіст — канцлер Конрад Адэнаўэр. У выніку ён пераканаў прэзідэнта Хойса прыняць у якасці гімна трэці куплет «Песні немцаў». Прэм'ера новага старога гімна ў берлінскім палацы «Titania» закончылася скандалам. Прысутныя ў зале сацыял-дэмакраты дружна пакінулі памяшканне. Сацыял-дэмакратычная прэса назвала выкананне «нацыяналістычнай выхадкай». А вядомы пісьменнік Генрых Бёль напісаў пародыю на «Песню немцаў», якую назваў «Дзіцячы гімн».

Прэзідэнт Тэадор Хойс у надзеі на тое, што з'явіцца нейкі варыянт, заявіў, што «спяваць трэці куплет — не значыць спяваць нацыянальны гімн». І тут у справу ўмяшаўся футбол. Пасля перамогі нямецкай футбольнай зборнай на чэмпіянаце свету ў Швейцарыі гледачы і спартсмены ад прыліву патрыятычных пачуццяў пачалі спяваць «Deutschlandlied». Было відавочна, што падчас іх трыумфальнага вяртання без спеваў гэтай песні таксама не абыдзецца. У выніку гарант пагадзіўся на выкананне трэцяга куплета падчас афіцыйных мерапрыемстваў. Пры гэтым ён загадаў, каб выкананне першага куплета было забаронена.

Аднак фармальнай забароны так і не было. Тым больш, што падчас «халоднай вайны» правыя кансерватары, якія заклікалі да вяртання межаў 1939 года, самі ахвотна спявалі палітычна некарэктны фрагмент. У працэсе аб'яднання Германіі ўзнікла ідэя прыняцця новага гімна. Асабліва падабалася гэта ідэя эсдэкам і зялёным. Аднак Гельмут Коль, маючы большасць у парламенце, не дапусціў змены аднаго з нацыянальных сімвалаў ФРГ.

Цяпер праціўнікі «Deutschlandlied», карыстаючыся дэбатамі наконт юбілею гімна і адсутнасці факту яго легітымізацыі, зноў ажывіліся. Праўда, пакуль іх заклікі не знаходзяць падтрымкі. У часы крызісу праблема прыняцця новага гімна падаецца бюргерам вельмі смешнай. Агульную думку выказаў часопіс «Cicero»: «Гімн нельга мяняць, як кашулю, нават калі яна вельмі брудная».

Аднак наўрад ці ў гісторыі нямецкага гімна пастаўленая кропка. І не толькі таму, што немцы з-за росту эміграцыі становяцца мультыкультурнай і шматэтнічнай нацыяй. Справа ў тым, што арыгінал манускрыпта «Песні немцаў» да фіналу Другой сусветнай вайны знаходзіўся ў Польшчы і разам з іншымі нямецкімі творамі мастацтва патрапіў у польскія рукі. Нягледзячы на абавязак паводле Гаагскіх канвенцый вярнуць трафеі на радзіму, польскі бок пакуль упарта адмаўляецца аддаць арыгінал тэксту нямецкага гімна. Правая нямецкая прэса ў сваю чаргу называе той манускрыпт «апошнім палонным Другой сусветнай вайны».

АНАЛІЗ

# БАСКСКАЯ ІНТРЫГА

Алег НОВІКАЎ

**У Краіне Баскаў абвешчаныя пазачарговыя выбары, па выніках якіх да улады могуць прыйсці прыхільнікі незалежнасці.**




У гісторыі баскскай аўтаноміі гэта ўжо трэці выпадак, калі ў мясцовы парламент праводзяцца пазачарговыя выбары. Папярэднія два разы абавязковай прычынай пазатэрміновага галасавання была актывізацыя дзейнасці баскскай незалежніцкай тэрарыстычнай групоўкі ЕТА. На гэты раз ЕТА не пры чым.

Галоўны чыннік выбараў, якія, дарэчы, прызначаны на 21 кастрычніка, — эканоміка. Сярод пяці пунктаў, якія lehendakari (так баскі называюць прэм'ера ўраду) Пачы Лопес назваў у якасці прычын для пераносу даты выбараў, амаль усе тычацца розных аспектаў эканомікі. Лопес і яго Баскская партыя сацыялістаў (PSE) хочуць прыняць пакет законаў пра рэформу падатковай і адміністратыўнай сістэм, каб больш эфектыўна змагацца з крызісам. Апазіцыя, па словах Лопеса, тарпедуе ініцыятывы. Сітуацыя пагоршылася пасля таго, як у маі кансерватыўная Народная партыя (PP) выйшла з кааліцыі з сацыялістамі. У такой сітуацыі, па словах lehendakari, сацыялістам лепш увогуле сысці з ураду, чым нічога не рабіць.

Як выбары дапамогуць сацыялістам, рэйтынгі якіх невысокія, цяжка сказаць. Усе сацыялагічныя выкладкі паказваюць будучую перамогу ўмеранай Партыі баскскіх нацыяналістаў (PNV), якая можа разлічваць на 23–24 месцы ў рэгіянальным парламенце, што складаецца з 75 дэпутатаў. Сацыялістам свеціць максімум 17–18 мандатаў (сёння ў іх 25 месцаў). Яшчэ 12 дастануцца правым.

Аднак не ўсё так кепска ў PSE. Магчыма, стаўка робіцца на тое, што новы парламент будзе кардынальна не падобны на цяперашні, дзе буйныя фракцыі маюць умераныя нацыяналісты, сацыялісты і народнікі. Калі верыць прагнозам, то другой партыяй у складзе новага парламенту можа стаць блок левых нацыяналістаў з аб'яднання «Bildu».

«Bildu» — кааліцыя т.зв. izquierda abertzale, левых нацыяналістаў. Яна паўстала ў мінулым годзе пасля доўгіх спроб зарэгістраваць сваю партыю. Прыкладна тузін разоў улады адмаўлялі ініцыятарам у рэгістрацыі, спасылаючыся на тое, што сярод стваральнікаў ёсць сябры забароненай за кантакты з ЕТА партыі «Batasuna».

Легалізацыя левых нацыяналістаў стала магчымай толькі пасля таго, як баевікі ЕТА пачалі адмаўляцца ад вайсковай стратэгіі. Дарэчы, пацыфікацыю вайсковага падполля сацыялісты прыпісваюць сабе. «Менавіта ў час нашай легіслатуры быў пакладзены канец тэрарызму ЕТА. І гэта адбылося без абмежавання грамадзянскіх свабод», — падкрэсліў Лопес падчас абвяшчэння новай даты галасавання.

Што да «Bildu», дык яе першы выхад на авансцэну ў мінулым годзе закончыўся трыумфам. На мясцовых выбарах кандыдаты ад izquierda abertzale атрымалі 26 працэнтаў галасоў, а цяпер маюць усе шанцы стаць другой парламенцкай партыяй з 17–18 дэпутатамі. Гэта стварае новую канфігурацыю ў баскскай палітыцы, калі вядучымі палітычнымі сіламі становяцца дзве партыі нацыяналістаў. Менавіта яны і пачнуць змагацца за пасаду lehendakari, і тут вырашальнае значэнне будзе мець пазіцыя трэцяй парламенцкай партыі, а менавіта сацыялістаў. Магчыма, у гэтым — стаць уладальнікам залатой акцыі — і палягае каварны план Пачы Лопеса.

Пакуль усё ідзе па гэтай схеме. Абедзве нацыяналістычныя партыі разглядаюць будучыя выбары як рубежныя. Задоўга да таго, як быў дадзены старт выбарчай кампаніі, яны высунулі кандыдатаў на lehendakari. Ад «Bildu» за вакансію пазмагаецца Лаура Мінтэгі — выкладчыца літаратуры. PNV прапануе выбаршчыкам кандыдатуру Іньіга Уркульу, які прафесійна займаецца палітыкай. Важна адзначыць, што ўступаюць у саюз абедзве партыі не забіраюцца, а арыентуюцца на дыялог з PSE як патэнцыйным партнёрам па кааліцыі.

Новы расклад дазваляе ўсур'ёз разглядаць опцыю пра ўваход прадстаўнікоў izquierda abertzale ў сумесны кабінет з сацыялістамі, што лагічна пацягне паўзучую рэвізію прававога статусу Краіны Баскаў у складзе іспанскай дзяржавы. «Bildu» аспрэчвае легітымнасць іспанскай канстытуцыі, якая разглядае Краіну Баскаў як частку Іспаніі. Тым больш, што, па словах нацыяналістаў, калі аддзяляцца, то лепш за ўсё зараз, у час крызісу. «Незалежнасць — гэта адзіная форма выхаду з крызісу, — кажа Лаура Мінтэгі, і дадае: — У цяперашніх умовах казаць пра незалежнасць — гэта не толькі здаровая практыка нагадць пра наша законнае права, аднак яшчэ і адзіны сродак выжывання ва ўмовах іспанскага караблекрушэння».

Парадокс заключаецца ў тым, што з гэтым тэзісам зараз згодны амаль усе баскскія партыі, уключаючы сацыялістаў, якія доўгі час арыентаваліся на Мадрыд. Міф пра тое, што дастаткова заможная Краіна Баскаў можа лепш перажыць рэцэсію самастойна, зараз вельмі папулярны сярод часткі баскскага электарату. Крызіс і дэбаты вакол яго далі баскам магчымасць паглядзець на сябе праз прызму таго, што адбываецца ў іншых іспанскіх рэгіёнах. Як піша газета «El Pais», «адносна здаровая сітуацыя з фінансамі і меншая тэндэнцыя да растраты адміністрацыямі публічных сродкаў, не такія высокія пазыкі ў параўнанні з іншымі камунамі выклікалі ў баскаў пачуццё палітычнага нацыянальнага гонару, які гучыць прыкладна так: «У нас не ўсё добра. Аднак лепш, чым у іншых».

Нядаўняя гучная пікіроўка паміж Лопесам і цэнтральным урадам, які патрабуе ад баскаў скараціць фінансаванне публічных службаў, яшчэ больш узмацніла сепаратысцкія настроі. Як следства, цяпер усе партыі, акрамя традыцыйна прамадрыдскай PP, ідуць на выбары, кажучы пра неабходнасць асобнай ад астатняй Іспаніі эканамічнай мадэлі для Краіны Баскаў. Зразумела, што кожны бачыць тую мадэль па-рознаму. Так, Лопес кажа пра асобную падатковую сістэму і механізм стымулявання спажывання. А Іньіга Уркульу патрабуе перадачы дадатковых эканамічных правоў для ўраду аўтаноміі.

Вядучыя эканамісты Іспаніі скептычна глядзяць на гэтыя пражэкты. Па іх словах, адносна някепскі стан баскскай эканомікі тлумачыцца тым, што яна завязаная на знешнія рынкі і мае розныя цыклы з іспанскай, а таму пазней адчула наступствы крызісу. Аднак гэта значыць, што і выходзіць з застою яна будзе пазней. Перамагчы глабальны крызіс асобна баскская эканоміка не здольная, кажуць яны. З іншага боку, эксперты не выключаюць магчымасці стварэння лакальнай мадэлі, якая дазволіць эфектна змагацца з праявамі крызісу ў сацыяльным жыцці.

У любым выпадку, відавочна, што ў баскскім грамадстве сфармаваўся попыт на незалежніцкія тэорыі, што робіць ход выбараў і іх вынікі вельмі інтрыгуючымі. Відавочна, яны паўплываюць на агульную палітычную дыскусію. Некаторыя палітолагі ўжо сцвярджаюць, што фрагментызацыі Іспаніі падчас крызісу не пазбегнуць, і ўжо зараз трэба пачынаць разважаць пра пераход дзяржавы на федэральную мадэль.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛІ КЕРЫМЛІ



Генеральная пракуратура Азербайджана абвінавaціла лідара азербайджанскай апазіцыйнай партыі «Народны фронт» у забойстве першага прэзідэнта краіны Абульфаза Эльчыбея. Нагадаем, што ў чэрвені 1992 года на хвалі нацыяналістычнай эйфарыі Эльчыбея — антысавецкага дысідэнта — абралі прэзідэнтам незалежнага Азербайджана. Праз год Эльчыбей пакінуў пасаду ў выніку дзяржаўнага перавароту, а да ўлады вярнуўся Аліеў. Напачатку ліпеня 2000-га Абульфаз Эльчыбей трапіў у шпіталь у Турцыі і памёр там ва ўзросце 62 гадоў, як паведамлялася, з-за праблем з ныркамі. Праз 12 гадоў пра тую смерць зноў узгадалі. Лідар іншай апазіцыйнай партыі «Мусават» Хафіз Гаджыеў нечакана паведаміў, што Эльчыбей казаў яму, што Алі Керымлі атруціў яго падчас нейкай вячэры. Гэта заява і стала прычынай для пракуратуры, каб аднавіць следства па той справе. Сам Керымлі назваў заяву Гаджыева «агіднай хлуснёй». Па яго словах, за кошт гэтай правакацыі яго хочуць не дапусціць да змагання за прэзідэнцкае крэсла ў кастрычніку 2013 года. Сябры сям'і былога прэзідэнта таксама незадаволеныя тым, што адбываецца, і заклікалі спыніць «спекуляцыі» наконт смерці сваяка.

### ЧАНАД СЭГЕДЗІ



Адзін з лідараў венгерскай правай радыкальнай партыі «Jobbik» зрабіў сабе імя ў венгерскай палітыцы як заўзяты прапаведнік антысемітызму. Калі яго паслухаць, то атрымліваецца, што Венгрыя цалкам куплена яўрэямі, якія вось-вось пераедуць сюды з Ізраілю. Акрамя таго, палітык праславіўся тым, што стварыў штурмавыя атрады пры партыі, якія галоўным чынам палявалі на цыган. Малады фюрэр зрабіў бліскучую кар'еру ў сваім асяроддзі: ва ўзросце 26 гадоў па спісу партыі ён трапіў у Еўрапарламент. І тут раптам адбылася катастрофа. Стала вядома, што яго бабка — яўрэйка, і ён па яўрэйскіх законах таксама яўрэй, хаця і ходзіць у пратэстанцкую царкву. Наступствы не прымусілі сябе чакаць. Паколькі Чанад не адпавядае крытэрам патрыёта, яго абвінавацілі ў карупцыі і на мінулым тыдні выключылі з партыі. Як піша прэса, былы экстрэміст цяпер думае, што рабіць з сваёй новай ідэнтычнасцю. Ён нават наведаў будапешцкага равіна, які параіў яму наведаць Асвенцым, дзе падчас вайны знаходзілася яго бабка.

### ВІТАЛЬ І ДЗМІТРЫЙ КАПРАНАВЫ

Браты Капранавы — украінскія выдаўцы, пісьменнікі, публіцысты — узначаліць спіс кандыдатаў на кастрычніцкіх парламенцкіх выбарах ад партыі Украінская платформа «Сабор». Аднак фішка ў іншым — Капранавы зрабілі прарыў у галіне адносін выбаршчыка і дэпутата. Даўно ўжо ўкраінскае грамадства абмяркоўвае, з дапамогай якога механізма гарантаваць, каб дэпутат выконваў волю народа. Чаго толькі ні прыдумвалі. Напрыклад, напярэдадні выбараў падпісвалі віртуальны кантракт з электаратам, які мог за невыкананне яго пунктаў адклікаць дэпутата (такога, відавочна, ніколі не было). Капранавы вырашылі інакш прадэманстраваць сур'ёзнасць намеру быць слугамі народу. У якасці доказу яны падпісалі сваёй крывёй прысягу служыць народу, аргументаваўшы тым, што ніштo іншае не можа лепш паказаць шчырасць іх намераў. Акт падпісання крывёй выклікаў шмат каментараў ва ўкраінскай інтэрнэт-прасторы, аднак, здаецца, на папулярнасці партыі не адлюстраваўся. Увогуле, партыя «Сабор» — дзіўны праект аднаго з алігархаў, якія захапляецца ўкраінскай культурай. Ён уключыў у спіс партыі выключна паэтаў, навукоўцаў, музыкаў і нават жывога кабзара. Галоўная мэта партыі — новы фармат дыялогу грамадства і ўлады.



▸ **НЕВЯДОМАЕ**

# 1938 ГОД. ТРАГЕДЫЯ ПАЛЯКАЎ У БССР

**Ігар МЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

**Пік напружанасці ў адносінах бальшавіцкіх улад і савецкіх грамадзян польскага паходжання прыйшоўся на канец 1930-х гадоў. Яшчэ з моманту заканчэння савецка-польскай вайны 1920 года «польскі кантынгент» знаходзіўся ў савецкіх спецыяльных органаў на асобым уліку. Няўдалы для Савецкай Расіі вынік таго канфлікту прывёў да адкрытай канфрантацыі паміж «першай дзяржавай рабочых і сялян» і ІІ Рэччу Паспалітай. Першай ахвярай гэтага супрацьстаяння сталі менавіта палякі, што пражывалі ў БССР і УССР.**



Супрацоўнікі НКУС БССР на занятках па стральбе



В 1935 году передал польскому консулу в Минске шпионск сведения о численном составе и вооружении частей в г.Орше и об Оршанском жел.дор.узле.

√Сколотил в Ушачском-погранрайоне диверсионно-повстанческую группу.

ВИНОВНЫМ СЕБЯ ПРИЗНАЛ.

ПОЛЬСКИЙ ШПИОН - ДИВЕРСАНТ.

Абвінаваўчае заключэнне адносна Ваўжынца Радзішэскага ў 1938 годзе

На думку шматлікіх даследчыкаў, «нацыянальныя аперацыі», якія НКУС праводзіў у 1937–1938 гадах, былі звязаны з пачуццём надыходзячай вайны і злучаным з гэтым жаданнем савецкага кіраўніцтва знішчыць міфічную «пятую калону» ў краіне. У сувязі з гэтым найбольшую варожасць выклікалі менавіта асобы «польскага паходжання». Акрамя таго, савецкія ўлады імкнуліся ўстанавіць кантроль над усімі прыватнымі, не санкцыянаванымі дзяржавай кантактамі сваіх грамадзян з замежнымі краінамі. Менавіта з 1937–1938 гадоў у сумленні звычайных савецкіх грамадзян пачало ўкараняцца разуменне небяспекі ўсялякіх кантактаў з замежжам.

Паводле перапісу насельніцтва 1937 года, на тэрыторыі СССР пражывала 636 220 палякаў, з якіх у УССР — 417 613, у БССР — 119 881, у РСФСР — 92 078 чалавек. У Савецкім Саюзе былі створаны польскія аўтаномныя раёны імя Ю. Мархлеўскага на Украіне і імя Ф. Дзяржынскага ў савецкай Беларусі. Дарэчы, апошні з цэнтрам у Койданава (цяпер Дзяржынск) з'явіўся ў Мінскай вобласці ў 1932 годзе і быў своеасаблівай «савецкай Польшчай» на мяжы з «панскай дзяржавай», створанай Ю. Пілсудскім. На тэрыторыі польскіх раёнаў дзейнічалі школы, выдаваліся польскамоўныя часопісы, газеты і кнігі. Аднак спачатку ў 1935 годзе быў ліквідаваны польскі раён у УССР, а праз тры гады такі ж лёс напаткаў і «малую Польшчу» ў БССР. Па меркаванні польскіх даследчыкаў, гэты крок быў часткай «польскай аперацыі» НКУС.

У жніўні 1937 года ўсе мясцовыя органы ўнутраных спраў атрымалі загад №00485, а крыху пазней — закрыты ліст з назвай «Аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай разведкі ў СССР». Аўтары апошняга дакумента спрабавалі абгрунтаваць неабходнасць правядзення рэпрэсій супраць савецкіх грамадзян польскага паходжання тым, што большасць з гэтых людзей з'яўляюцца агентамі польскіх разведорганаў. Яны нібыта стварылі мноства шпіёнска-дыверсійных груп, дзейнасць якіх накіравана на дэстабілізацыю сітуацыі ў СССР. У загадзе №00485 у прыватнасці вызначаліся катэгорыі асоб, якія павінны былі быць арыштаваны. Сярод іх вылучаліся чальцы Польскай вайсковай арганізацыі (на самай справе, спыніўшай сваю дзейнасць яшчэ ў 1921 г.); былыя салдаты і афіцэры Войска Польскага, што трапілі ў бальшавіцкі палон падчас савецка-польскай вайны 1920 г.; палітэмігранты; былыя чальцы польскіх палітычных партый; актыўная частка мясцовых нацыяналістычных і антысавецкіх элементаў польскіх раёнаў; перабежчыкі з Польшчы, незалежна ад часу пераходу іх на тэрыторыю СССР. Акрамя гэтага, мясцовыя органы НКУС адразу пачалі арыштоўваць асоб, якія ўваходзілі ў катэгорыю «консульскіх сувязяў», г. зн. савецкіх грамадзян, што мелі кантакты з прадстаўнікамі польскіх дыпламатычных устаноў. Нагадаю, у сталіцы савецкай Беларусі Мінску з 1924 года дзейнічала Генеральнае консульства Польшчы. Будынак дыпламатычнай установы знаходзіўся на вул. Савецкай, 84 (былой Захар'еўскай). У кастрычніку 1937 года нарком Яжоў загадаў арыштаваць усіх савецкіх грамадзян, звязаных з дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі Германіі, Японіі, Італіі і асабліва Польшчы.

У архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі сярод іншых захоўваецца следчая справа Ваўжынца Іванавіча Радзішэўскага. Лёс гэтага чалавека заслугоўвае нашай увагі, таму што яскрава дэманструе тое, праз што даводзілася прайсці «асобам польскага паходжання» ў Саўдэпіі.

Нарадзіўся гэты чалавек у 1895 годзе на Віцебшчыне ў вёсцы Бушанка. Як і кожны беларускі селянін, ён займаўся земляробствам, а калі пачалася Першая сусветная вайна, Ваўжынец Іванавіч паступіў на службу ў Рускую імператарскую армію, дзе служыў у 285-м пяхотным палку ў Нарве. Кастрычніцкія падзеі 1917 года аказалі ўплыў на геапалітычныя змяненні на мапе Еўропы, з якой зніклі Расійская, Нямецкая і Аўстра-Венгерская імперыі. Ім на змену прыйшлі новыя незалежныя дзяржавы, адной з якіх была Польшча. Хутка пачалася савецка-польская вайна. Фронт рухаўся на ўсход. Ваўжынец Радзішэўскі ўступіў у Войска Польскае і ўдзельнічаў у баях супраць Чырвонай арміі. Пасля Рыжскай мірнай дамовы ў 1921 годзе ён застаўся на тэрыторыі Беларусі, якая адышла да Польшчы, а яго жонка з дзецьмі — у Савецкай Расіі, на Полаччыне. У 1923 годзе ён вырашае адмовіцца ад польскага грамадзянства і нелегальна вяртаецца ў БССР. На мяжы чырвоныя памежнікі затрымліваюць былога польскага «жаўнежа», аднак хутка адпускаюць. Радзішэўскі вяртаецца да звыклай сялянскай працы. Хутка яго ўласная гаспадарка дасягае даваенных паказчыкаў. Аднак праз 7 гадоў, у красавіку 1930-га, АДПУ арыштоўвае селяніна. Радзішэўскага абвінавацілі ў тым, што падчас савецка-польскай вайны, ён быў агентам польскай разведкі і паведамляў палякам пра перасоўванні частак Чырвонай арміі. Абвінавачвалі Ваўжынца Іванавіча і ў тым, што ён ваяваў на баку Польшчы ў атрадах С. Булак-Балаховіча. Нарэшце, Радзішэўскаму інкрымінавалася тое, што ён займаўся кантрабандай: «хадзіў» у Польшчу і хаваў у сябе кантрабандыстаў, якія прыходзілі з таго боку.

Што казаць, у тыя няпростыя гады сапраўды многія жыхары памежных з Польшчай беларускіх абласцей займаліся кантрабандай. Гэтаму спрыяла галеча, якая панавала ў Савецкай Беларусі. Дакладна вядома і тое, што Ваўжынец быў у польскім войску. Абвінавачанняў хапіла, каб Радзішэўскага асудзілі на зняволенне ў ГУЛАГу. Аднак праз некалькі гадоў яму дазволілі вярнуцца ў БССР, у Аршанскі раён. Нарэшце, напрыканцы 1937-га Радзішэўскага арыштавалі ў апошні раз. НКУС інкрымінаваў Ваўжынцу Іванавічу тое, што «ён ў 1935 годзе перадаў польскаму консулу ў Мінску шпіёнскія дадзеныя аб дыслакацыі і колькасці частак Чырвонай арміі ў Оршы». Ніхто нават не задаваўся пытаннем, адкуль просты працоўны завода па вырабу цэглы мог атрымаць сакрэтную вайсковую інфармацыю. Безумоўна, зразумела, што справа была сфабрыкавана. Акрамя гэтага Ваўжынца Іванавіча абвінавацілі ў тым, што ва «Ушацкім пагранічным раёне ён стварыў дыверсійна-паўстанчую групу». Гэта тыповая фармулёўка, узятая з назвы вышэй адзначанага ліста наркома Яжова. У абвінаваўчым заключэнні было пазначана: «польскі шпіён — дыверсант». 20 лютага 1938 года Радзішэўскага расстралялі ў Мінску. Месца яго пахавання да сённяшняга дня не вядома. У лістападзе 1959 года Вайсковы трыбунал Беларускай вайсковай акругі пасмяротна рэабілітаваў гэтага чалавека. У дакуменце, які атрымалі блізкія, было пазначана, што «справа спынена за недаказанасцю абвінавачання».

Такіх выдуманых судовых спраў супраць «польскіх шпіёнаў», «балахоўцаў», «кантрабандыстаў», «дыверсантаў» у 1937–1938 гадах у БССР былі тысячы. Усяго ў ходзе «польскай аперацыі» за перыяд з 25 жніўня 1937 года па 15 лістапада 1938-га ў БССР было асуджана 19 931 чалавек, з якіх 17 772 расстралялі. Вось так НКУСаўцы выконвалі загад Яжова аб барацьбе з «пятай калонай» у савецкай Беларусі. Лёс Ваўжынца Радзішэўскага падзялілі і шматлікія беларусы, якія ў тым, ці іншым сэнсе былі звязаны з Польшчай. Большасць з тых, хто стаў ахвярай «барацьбы НКУС з польскімі шпіёнамі», у 1950-х гадах будуць рэабілітаваны, але бязвінна загубленых людзей гэта ўжо не ўваскрэсціць.

Трагедыя беларускіх палякаў, якія сталі ахвярамі НКУС у 1930-х гадах, даказвае, што бальшавіцкія лозунгі пра міралюбівую палітыку Савецкага Саюза, сяброўства і інтэрнацыяналізм паміж народамі аказаліся прапагандысцкай шырмай, зробленай дзеля таго, каб закамуфляваць сапраўдны твар бесчалавечнай сталінскай сістэмы.

*Аўтар выказвае шчырую падзяку Паўлу Чэслававічу Марэцкаму за прадастаўленыя архіўныя матэрыялы.*

ВОЕННЫЙ ТРИБУНАЛ
КРАСНОЗНАМЕННОГО
БЕЛОРУССКОГО ВОЕННОГО ОКРУГА

220003 г. Минск, ул. Фрунзе, 19.

31 марта 1993
№ 1949/1917

СПРАВКА

Дело по обвинению в шпионаже РАДИШЕВСКОГО Вовжинца Ивановича, 1895 года рождения, до ареста в 1937 году работавшего грузчиком на кирпичном заводе в Оршанском районе, пересмотрено военным трибуналом Белорусского военного округа 16 ноября 1959 года.

Постановление комиссии НКВД и Прокурора СССР от 21 января 1938 года по обвинению в шпионаже РАДИШЕВСКОГО Вовжинца Ивановича отменено и дело производством прекращено за отсутствием состава преступления.

По данному делу РАДИШЕВСКИЙ В.И. реабилитирован посмертно.

Зам. председателя военного трибунала
Республики Беларусь
полковник юстиции В.Евсюков

Даведка з ваеннага трыбуналу аб рэабілітацыі Ваўжынца Радзішэўскага

УСПАМІНЫ

# ШКОЛЬНАЯ ПАРА. ПАЧАТКІ

Арсень ЛІС

**Увосень 1941 года прыспела якраз мая школьная пара. Я ўжо ўмеў чытаць. Навучыўся па савецкім буквары, які аднаго дня прынёс мне стрыечны брат Геня. Ён паказаў мне першыя літары і навучыў, як іх правільна вымаўляць.**

Яго вёска Сівіца была ад нас далекавата, і наведваўся ён не так часта. Затое часцей, болей тым часам, прабывала ў нас мая хросная, малодшая маміна сястра цётка Вера. Маці той год даводзілася гаспадарыць без бацькі, мужчынскі і жаночы клопат у гаспадарцы ляжаў адно на яе плячах. Нярэдка даводзілася ёй адлучацца з дому. Тады неяк няўзнак яе заступала цётка Вера. Яна, управіўшыся з работай, часам садзілася з вязаннем пры акне. Я падбягаў да яе з кніжкай, пытаўся, як правільна будзе гучаць гэта во літара, затым садзіўся на тапчан па-турэцку, як казала яна, і нягучна бэкаў сабе пад нос. Так што першую грамату здабыў самадзейна, у хаце.

Да восені 1941-га бацька ўжо вярнуўся са сваёй — для некага кароткай, а для яго доўгай — вайны і да першага верасня павёў мяне запісаць у школу. Залеская школа знаходзілася на станцыі — гэта з вярсту ад нашага Вётхава. Стаяла яна воддаль ад станцыйнага будынку, на ўскрайку лесу. З поўначы камлістыя сосны падступаліся да самых яе сцен, узвышаючыся зялёна-хвалістымі кронамі над высокім жалезным дахам. Як на першака, школа глядзелася сапраўдным гмахам. Пабудавана яна была даўно. Пэўна, разам з усім комплексам прычыгуначнай станцыйнай забудовы, узведзенай у 70-я гады XIX стагоддзя, калі пракладалі тут Лібава-Роменскую чыгунку.

Падняўшыся высока на ганак з парэнчамі, бацька адчыніў вялікія важкія дзверы, і мы ўступілі ў светлы, даўгаваты калідор, а за ім у вялікую залу, з высокімі ды частымі вокнамі. Скрозь было светла і нязвычна прасторна.

Праваруч ля расчыненых дзвярэй у яшчэ адно памяшканне (настаўніцкую) паважна стаяў высокі ўсмешлівы мужчына, з муштуком і папяросай у руцэ. Самавітая пастава, росласць ды шэра-дымчаты касцюм надавалі яму адметнасці, важнасці і, можа, святочнасці. Яны з бацькам павіталіся за руку і пра нешта загаварылі, усміхаючыся адзін аднаму. Я ж тым часам цікаваў на шыхт адмысловых лавак, злучаных са сталамі, што занялі частку прасторы залы бліжэй да акон. На першай з гэтых партаў назаўтра і пасадзіць мяне настаўніца.

Па дарозе да хаты пачуў я ад бацькі нешта дзіўнае: казаў, што цяперашні дырэктар, які залічыў мяне ў першы клас, быў калісьці яго настаўнікам. А школа, і тое было мне зусім дзіўна, месцілася тады ў нашай хаце, у Вётхаве. Пазней ад маці таксама пачуў пра тую школку ў нашай хаце, дзе за настаўніка быў Баўтрукоў Іван. Яна не без гонару ўспаміналa, як двойчы ў класе толькі адна адказала на пытанне, зададзенае настаўнікам і пачула яго ўхвалу. Светла помніўся роднай яе кароткі школьны век. Адну толькі зіму пахадзіла яна ў вётхаўскую школу. Вясной палякі арыштавалі настаўніка, і школа закрылася. Казала, нейкі час сама сабе задавала заданне і здымала яго. Пра арышт вётхаўскага настаўніка Янкі Дудкі паліцыяй праз гады я прачытаў у віленскай беларускай газеце таго часу. Як тое было, крыху раней даведаўся я ад самога Івана Варфаламеевіча.

Толькі ўсталявалася ў нас Польшча, вясной 21-га, у Залескай ваколіцы і далей у Паніззі, Кеўлах, Сівіцы камуністычным падполлем былі раскіданы афішкі. Ясна, антыўрадавыя зместам. Тут жа адразу наскочыла паліцыя з дазнаннем, і хто першы ў іх на воку? Канешне, настаўнік з яго беларускай школай. Прыйшлі не ў школу, а ў бацькаву хату. І трэба, як на тое здарыцца, знайшлі жмут тых афішак. І шукаць не трэба было. Бацька, стары Баўтрук, зрана хадзіў на Букарава, падабраў іх колькі штук на траве. Скручаныя ў трубку, яны засталіся ў кішэні яго шэрай марынаркі, якую, прыйшоўшы ж у хату, павесіў на крук. Вядома, старому было цікава, што там пішуць, але думалася і пра курыва: з танюткай, як гільза, паперы можна было згарнуць добрую папяросіну.

Трубка каляровай паперы, якая тырчэла з кішэні марынаркі, і выдала крамолу.

«О псякрэў! — яе спрытна выхапіў паліцыянт у цывільным як шчаслівую знаходку, рэчавы доказ вінаватасці. Бацькі не чапалі, а яго, настаўніка, ды яшчэ Жэню Южыка, што, як і ён, быў скончыўшы за цара Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, арыштавалі. У Южыкавых у хаце нічога не знайшлі, то Жэню з пастарунка адпусцілі, а яго, Дудку, эскортам з паліцыянтам адправілі ў Вільню.

Віленшчына на той час фармальна яшчэ не была далучана да Польшчы. Мела асобны статус пад назовам Сярэдняя Літва, у адрозненне ад незалежнай Коўенскай, а таксама самастойную адміністрацыю.

У астрожных мурах, памятных заходнім беларусам Лукішак, Іван Дудка сустрэў і лектара беларускіх вучыцельскіх курсаў Максіма Гарэцкага, таксама арыштаванага. Гэта ж ад яго, выкладчыка літаратуры, і ад іншых педагогаў на тых курсах і запаліў настаўнік з Вётхава свой асветны каганец. Пасля беларускіх настаўніцкіх курсаў Івану Дудку і ўдалося адкрыць сваю першую школу. Пісьменнік жа і педагог у адначассі Гарэцкі трапіў у Лукішскі астрог за «Беларускія ведамасці». Рэдагаваная ім газета грамадска асвячала народ, злучала, мацавала жывыя яго сілы.

З Лукішак Івана Дудку выпусцілі праз тры месяцы, але школу ўжо ўзнавіць не далі. Пакантаваўся ён колькі часу ды мусіў згадзіцца на польскія настаўніцкія курсы. Набіралі, хто меў педагагічную адукацыю, і накіроўвалі аж у Кракаў. А пасля кракаўскіх курсаў у Беларусь не пусцілі, далі месца ў школе аж на Пазнаншчыне. Тая частка Польшчы за век з лішнім аўстра-венгерскага забору прынямечылася. Трэба было адраджаць пальшчызну. Там уже праграма ішла зусім іншая, чым у яго вётхаўскай школцы, дзе вучні чыталі:

— Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
— Чаго хочаш?
— Долі лепшай.
— Якой долі?
— Хлеба, солі.
— Чаго болей?
— Зямлі, волі...

Там ён вучыў добрых чужых дзяцей. Навучанне ішло пад знакам белага арла, у прамым і пераносным сэнсе:

— Kto ty jestes'?
— Poliak mały.
— Jaki znak twój?
— Orzeł biały...

Ды ў рэтраспекцыі я надта далёка адышоў ад таго, чаго пачаў, наважыўшы трохі расказаць пра асабісты школьны пачатак перыяду вайны, лютай і такой ахвярнай для майго народу, усіх іншых народаў, уцягнутых у яе крывавае дзейства. Натуральна, убачанае тады, у 1941-м, праз гады глядзіцца рэльефней, глыбей — адкрываецца ў першапрычынах і ўнутраных сувязях.

Тры першыя класы, школа ваеннай пары матчынай мовы, як тое было ў бацькоў за польскім часам, у мяне не адбірала.

Праўда, прыгожы адпаведны школьны будынак немцы хутка ў нас забралі. Прыгледзелі сабе пад апорны пункт і бункеры: балазе стаяла на адлёце, як бы прыкрываючы сабой з заходу ўсю пристанцыйную забудову.

Прыехалі немалыя, у рудаватай форме салдаты, казалі пра іх «тоды», прыгналі экскаватар і перш-наперш выграблі каўшом непадалёк школы даўжэзную шырокую траншэю. Мы думалі, пад сховішча для бульбы, так нехта быў сказаў, аказалася — для стрэльбішча. Нам жа ўсім класам, узяўшы з сабою невялікае драўлянае ўкрыжаванне (адкуль яно толькі і бралася), давялося перабрацца ў сціплы драўляны Басін дамок, бліжэй да вакзала. У нашай ранейшай школе за акном шумелі высозныя, стройныя сосны, а тут у голых бэзавых кустах пад акном крыкліва чырыкалі вераб'і. Не было ні сяней, ні калідора.

Прыйшоўшы ў другую змену крыху раней, да заканчэння занятказ першай, трэба было топаць на цесным падвор'і або, стаіўшыся на ганку, слухаць, што казалася там, у класе.

Я часам лавіў голас строгага старога настаўніка Паўла Южыка, які вёў урок малявання, тлумачыў пры дошцы і нешта чарціў на ёй, затым пытаўся...

Я не ведаў тады, што быў Павел Южык прафесійным мастаком. Скончыўшы ў свой час Віленскую рысавальную школу прафесара Трутнева, ён маляваў краявіды, пісаў партрэты тутэйшых людзей ды абразы для цэркваў. Настаўнік жыў у Вётхаве недалёк ад нас. Калі мне ўдавалася не празяваць, як ён выбіраўся на станцыю, я прыстройваўся ўслед за ім. Пры высакаватым старым, апранутым у самавітае, з шэрым каракулем паліто, з сукаватым бліскучым кіем у руках, я чуўся досыць пэўна. А тое было асабліва важна пры пераходзе праз пераезд. Там, каля крана, злучанага з воданапорнай вежай, звычайна спыняліся цягнікі з нямецкімі салдатамі, выпраўленымі на фронт. Паравозы набіралі вады, а пераезд на той час перакрываўся шлагбаумам. Трэба было чакаць, пакуль унутры чорнай махіны нальецца шмат-шмат вады, міжвольна слухаць рогат салдатні, бачыць іх часам дзікаватыя забаўкі. Аднаго разу, будучы без настаўніка, я памкнуўся шмыгануць пад вагон спыненага эшалона, каб не спазніцца ў школу. Вартавы — і адкуль ён браўся — тут жа пагрозліва наставіў на мяне вінтоўку, крыкнуў: «Halt! Zuruk»... і яшчэ нешта злоснае.

З таго часу я не рызыкаваў праскочыць паўз эшалон з салдатамі нахапкам, мусіў, як усе, чакаць, пакуль, натужна сапучы да пырхаючы парай, цягнік не крануцца з месца і не рушыў далей.



Арсень ва ўзросце 4 гадкоў



Арсень у дзясятым класе




Станцыя Залессе. Архітэктура станцыі захавалася ў першачатковым выглядзе

Аднойчы, у час такога вымушанага чакання, давялося быць сведкам здзеклівай сцэны.

З рэйкавым ключом на плячы ўздоўж эшалона ішоў рабочы-чыгуначнік, тутэйшы чалавек. Ішоў сабе і ішоў, але вось яго аклікнуў салдат з адчыненага вакна вагона? «Kom — па-нямецку хадзі сюды!». Чалавек вярнуўся, падышоў да акна і неўзабаве патупаў далей. Праз момант ізноў пачулася тое «Kom!». Пуцеец яшчэ раз вярнуўся і як бы зноў быў адпушчаны. Ён мінаў ужо другі вагон, як пачулася натужліва-злоснае «Kom!..». Паклікаы падышоў у трэці раз — і тут, выскачыўшы з вагона, два салдаты пачалі збіваць чалавека.

Аказалася, дзеля забавы яны ўлаштавалі эксперымент: паквапіцца тутэйшы пуцеец на знарок, дзеля пробы, падкінутыя з акна маркі, ці тут жа аддасць знойдзенае. Не падазраючы подступу, рабочы падняў край шпал тыя маркі і паклаў у кішэнь. Не быў вельмі кемлівы і не зрэагаваў, як трэба, калі аклікнулі: было ж ясна, што адмыслова назіралі, як будзе сябе паводзіць.

Было ад таго ўбачанага страхатліва і прыкра. А малады мужчына, што чакаў побач, калі адыдзе цягнік, адвярнуўся і плюнуў: «Хутчэй бы ён сышоў з воч». Быў выпадак, калі, падганяны думкай не спазніцца ў клас, я рвануўся праз пераезд і перабег перад самым паравозам, метраў за 30–50, а ён тым часам і не збіраўся спыняцца. Мае на той час спадарожнікі-аднакласнікі Тамара Гаварэнь і Рая Будвіс спачатку войкнулі зжахнуўшыся, а затым смяяліся з маіх перагонкаў з паравозам. І ўсё гэта было нармальна. Толькі бацька, даведаўшыся ад дзяцей, расцаніў тое па-свойму. Ды, мусіць, ува ўсіх бацькоў залішне строгі погляд на дзіцячыя памкненні і ўчынкі. На наступны год у мяне ўжо не было праблемы пераходу да школы праз чыгунку.

У другім класе нам пашанцавала на школьны будынак. Наш клас месціўся ў мезаніне былога маёнтка Агінскага. Потым, ужо вясной, нас пацяснілі: спусцілі долу галерэю, што выступала даўгаватым адросткам ад асноўнага корпуса палаца. У нашым памяшканні былі частыя з паўкруглым закругленнем уверсе вокны па дзве сцяны, было халаднавата, але светла і досыць прасторна. Парты займалі частку галерэі, яе крайні канец.

▸ ЦІКАВА

# НЕСУР'ЁЗНЫЯ СПРАВЫ СУР'ЁЗНАГА ЧАЛАВЕКА

**Нагодай для гутаркі журналісткі НЧ Таццяны Шапуцька з вядомым моладзевым лідарам, былым палітвязнем Андрэем Кімам стала яго ініцыятыва па агучванні трэйлераў да сусветных прэм'ераў па-беларуску.**


Андрэй Кім

***— Каму патрэбныя трэйлеры фільмаў «на мове»?***

— Трэйлеры — гэта рэклама, а за кошт рэкламы людзі заўсёды прывучаюцца да мовы. Калі б уся рэклама ў нас была па-беларуску, моўная сітуацыя ў краіне кардынальна б змянілася. Мажліва, праз трэйлеры і кінакампаніі задумаюцца пра дубляж поўных фільмаў на беларускую мову.

***— Вы пераклалі два трэйлера — да фільмаў «Цёмны рыцар: Адраджэнне» і «Нястрымныя–2». Ролікі агулам прагледзела каля 4 тысяч чалавек (на момант гутаркі). Няшмат, каб зацікавіць кінакампаніі…***

— Я быў расчараваны, бо чакаў мінімум 10 тысяч праглядаў кожнага фільма. Наш жартаўлівы ролік «Шатландцы ў ліфце» з беларускімі субтытрамі, які нідзе не рэкламаваўся, набраў менавіта столькі праглядаў! Паглядзім, як пойдзе справа з трэйлерам да фільма «Хобіт» паводле Толкіена. Гэтым ролікам я сапраўды ганаруся, агучылі яго выдатна! Актор, які дублюе пачвару Голума, распавядаў, як ён здолеў дамагчыся падабенства ў голасе — заўважыў, што падобныя гукі выдаюць ягоныя каты, калі выкашліваюць поўсць, і пачаў паўтараць за імі.

***— Як адбываецца сам працэс агучвання? Дома на мікрафоны?***

— Не, мы наймаем прафесійную студыю. Усе акторы таксама прафесійныя — Павал Харланчук, Ганна Хітрык ды Аляксандр Малчанаў з Купалаўскага тэатра, Уладзімір Глотаў з Рускага тэатра. У агучванні «Цёмнага рыцара» паспрабавала сябе спявачка Руся. Калі з'яўляецца магчымасць аплаціць студыю (самі акторы працуюць «за ідэю»), мы збіраемся, праглядаем трэйлеры і супольна абіраем ролік для агучвання. Валанцёры, якія добра ведаюць замежныя мовы, робяць пераклад. Мы заўсёды перакладаем з арыгіналу. Адзіным выключэннем быў японскі мульцік — яго мы пераклалі з англійскай, бо знаўцаў японскай мовы сярод нас не знайшлося. Уласна начытванне тэксту для трэйлера займае паўгадзіны (для фільмаў — каля 5 гадзін), пасля ідзе тэхнічная апрацоўка.

Я адмыслова ездзіў у Маскву вучыцца гукарэжысёрскай працы, і адзін з маскоўскіх тэлеканалаў пасля нават прапаноўваў мне застацца ў іх працаваць.

Дарэчы, у Беларусі нам прапанавалі за грошы займацца агучваннем па-беларуску піратскіх копій фільмаў-прэм'ераў — г. зв. «экранак» (запісаных падчас прагляду ў кінатэатры). Піратства — непавага да рэжысёра, да таго ж якасць такіх фільмаў дрэнная, таму мы адмовіліся.

***— Дык вы ж таксама крадзеце трэйлеры?***

— Не, трэйлеры адмыслова выкладаюцца для распаўсюду. Нам яшчэ і даплачваць павінны, што мы дапамагаем распаўсюджваць рэкламу на беларускую аўдыторыю. Праўда, пакуль я не ўпэўнены, што наша праца цікавіць беларусаў. Расійскія гледачы куды больш пазітыўна адрэагавалі на беларускамоўныя трэйлеры. Ды што казаць — найпапулярнейшы расійскі сайт кіно «Кінапошук.ру» размясціў ролікі імгненна, а нашы незалежныя сайты выстаўлялі трэйлеры вельмі марудна, пасля шматлікіх упрошванняў і нагадванняў. Прыкра, што партал tut.by адмовіўся выстаўляць беларускамоўныя ролікі побач з рускамоўнымі… Я асабіста пісаў лісты на сайт, гледачы пакідалі каментары з просьбамі размясціць трэйлеры — рэакцыі не было ніякай.

***— Як вы распаўсюджваеце трэйлеры?***

— Выкладаем ролікі на «Ютуб», «Укантакце», у «Фэйсбуку», у ЖЖ. Зараз мы ствараем сайт, на якім будуць размешчаныя нашы пераклады трэйлераў ды фільмаў, будуць публікавацца рэцэнзіі на кіно, можна будзе весці блогі. Пісаць на сайт зможа кожны аматар кіно.

***— А агучваць трэйлеры аматараў пусціце?***

— Не, гэтая справа занадта дарагая. Але, напрыклад, займацца перакладамі — калі ласка.

***— Некаторыя кажуць — людзі сыдуць з кінатэатра, калі туды прыйдзе беларуская мова?***

— Дык і не трэба, каб ва ўсе кінатэатры адразу прыходзіла беларуская мова. Але нават у сённяшняй сітуацыі абсалютна рэальным было б вылучыць хаця б адзін кінатэатр, дзе паказвалі б толькі беларускамоўныя фільмы. Упэўнены, гэты кінатэатр сябе б акупіў.

***— У мінулым вы — вядомы палітычны дзеяч, а цяпер дублюеце трэйлеры — несур'ёзна неяк…***

— Перад прэзідэнцкімі выбарамі адна палітычная сіла спрабавала мяне купіць, пыталіся — чым займаешся? Фільмы агучваю, кажу. Ды каму твае фільмы трэба, займайся сур'ёзнымі рэчамі, адказваюць.

Тое, што я раблю, ніколі не ўспрымалася ўсур'ёз. Бойкі падушкамі, якія збіралі больш людзей, чым акцыі на Дзень Волі; агучванне фільмаў і ролікаў па-беларуску; кампанія салідарнасці з палітвязнямі пры ўдзеле замежных зорак— гэта ўсё несур'ёзна. Было б добра, калі б яшчэ КДБ і МУС таксама не ўспрымалі гэта ўсур'ёз. Мне не прадаюць гарэлку і цыгарэты ў крамах, бо я выглядаю на 16 гадоў. Няхай і мае справы выглядаюць на 16 гадоў, а сур'ёзныя справы пакінем дзядзькам у пінжаках.

*P.S. На момант друку агулам трэйлеры прагледзела больш за 15 тысяч чалавек.*



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 837

Падпісана да друку 24.08.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.